9 лютага 2018 | № 4 (567)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Адзіная зборная? Дзякуй, не трэба**

Стар. 8



# «Справа Regnuma» як каталізатар

## Калі б «справы Regnuma» не было, яе варта было б выдумаць



Сяргей ПУЛЬША

Прапагандысты расійскага інфармацыйнага рэсурсу «Regnum» Юрый Паўлавец, Дзмітрый Алімкін і Сяргей Шыпценка атрымалі па пяць гадоў умоўна кожны. Яны прызнаныя вінаватымі ў распальванні міжнацыянальнай варожасці.

Як ні дзіўна, скончыўся гэты гучны працэс практычна маўчаннем. Дзяжурныя навіны ў стужках інфармацыйных агенцтваў, пара-тройка каментараў — і пра «злачынцаў» усе забыліся. Хаця ёсць некаторыя моманты, на якія варта было б звярнуць увагу.

Найперш, гэта сам прысуд. Для ўсіх відавочна, што ў нас няма незалежнай судовай сістэмы. У дадзеным выпадку суддзя адмераў менавіта столькі, колькі запрасіў пракурор — то-бок, дэ-факта, па-максімуме. Варта заўважыць, што пяць гадоў калоніі — гэта і ёсць максімальны тэрмін, прадугледжаны часткай 1 артыкула 130 Крымінальнага кодэкса Беларусі, па якім судзілі аўтараў «Regnuma».

Тое, што прысуд быў вынесены «з адтэрміноўкай», не змяншае яго значнасці. Проста дадаткова паказвае палітычнасць працэсу: уладам Беларусі непатрэбны чарговы «патрыятычны шал» у расійскіх шавіністычных СМІ і «пакутнікі рускага міру» ў Сінявокай.

Шмат хто лічыць, што прапагандыстаў «Regnuma» засудзілі не таму, што яны называлі Беларусь «недадзяржавай» і кпілі з беларускай мовы. А таму што гэтыя кпіны хіба што не наўпрост закранаалі ўладную палітыку: Лукашэнка абвінавачваўся ў занадта «нацыяналістычных» паводзінах і нежаданні ўваходзіць шасцю абласцямі ў склад Расіі. Маўляў, рэгнумцы былі большымі «русафіламі», як Аляксандр Рыгоравіч, які, нібыта, усталяваў манаполію на сяброўства з Расіяй і вельмі хваравіта ўспрымае замахі на гэтую манаполію. То-бок, яны крытыкавалі кіраўніка краіны з русафільскіх пазіцый — за гэта і атрымалі даволі жорсткі прысуд.

З іншага боку, зараз, асабліва пасля сумнавядомых падзеяў ва Украіне, змянілася парадыгма ўлады. Так, мы сябруем з Расіяй, але «рускі мір» — дзякуй, не трэба. І фішка ў тым, што засудзілі менавіта прапагандыстаў. Улада, магчыма, зразумела, з чаго пачынаўся Крым і Данбас: з адмаўлення такімі ж прапагандыстамі ўкраінскай дзяржаўнасці, культуры і мовы... Гэта стварыла глебу для з'яўлення там «зялёных чалавечкаў».

Такім чынам, беларуская ўлада паказала іншым адэптам і апалагетам «рускага міру» ў Беларусі: сядзіце ціха і не рыпайцеся. Інакш будзе тое, што з тройкай «Regnuma». Гэта, на мой погляд, відавочнае пасланне, якое зразумелі.

Пра зразумеласць паслання сведчыць рэакцыя грамадства на «справу Regnuma» у адрозненне ад«справы патрыётаў». Фігуранты «справы патрыётаў» былі арыштаваныя ў сакавіку, а на волю выйшлі ўжо ў ліпені. Да снежня справа развалілася. І адбылося гэта не ў малой ступені — а можа, і ў асноўнай, — дзякуючы рэакцыі неабыякавага грамадства.

Аўтары «Regnuma» сядзелі ў тым жа СІЗА № 1, што і патрыёты. За іх не «ўпісаўся» ніхто. Раптоўна некуды знік беларускі «Антымайдан». Усе «славянскія саборы» і «беларускія казакі» зрабілі выгляд, што іх няма і не было.




Некаторыя наракаюць на пазіцыю Расіі: маўляў, пасольства «здало сваіх» і не прыклала належных высілкаў, каб абараніць пісакаў-прапагандыстаў.

Па-першае, расійскае пасольства, нават нягледзячы на тое, што Ю. Паўлавец атрымліваў грошы за свае артыкулы менавіта там, не магло нічога зрабіць. Усе арыштаваныя — грамадзяне Беларусі. А сэнс пасольства ў тым, каб вырашаць праблемы не беларусаў, а расіян.

Па-другое, Расія дзейнічала ў сваёй нармальнай сучаснай парадыгме. Гэтая парадыгма называецца «ихтамнет». Калі пасольства ўлезла б у гэтую справу — гэта азначала б, што Расійская Федэрацыя афіцыйна пацвердзіла: яна калі не ставарае, то падтрымлівае ў Беларусі «пятую калону рускага міру». І, баюся, гэта нічым добрым для аўтараў «Regnuma» не скончылася. Прынамсі, умоўнымі тэрмінамі яны не абмежаваліся б.

У той жа час «адмашка» па «справе Regnuma» стала пэўным штуршком і для саміх дзяржаўных чыноўнікаў. Калі раней «сяброўства з Расіяй» праходзіла ў дзяржаўнай палітыцы чырвонай ніткай, то зараз чыноўнікі зразумелі, што «сяброўства» — не азначае «поўнае падпарадкаванне». Што, нягледзячы на сябра, у Беларусі могуць быць і ёсць свае, нацыянальныя інтарэсы і свая, адрозная ад рускіх, палітыка, свае ідэалагемы.

За тыя чатырнаццаць месяцаў, пакуль адэпты «рускага міру» сядзелі ў СІЗА, «мяккая беларусізацыя» пачала набываць даволі цвёрдыя рысы. Канешне, адбывалася гэта не без удзелу той жа неабыякавай грамадскасці. Але ніхто не змушаў, напрыклад, Уладзіміра Макея прыходзіць на З'езд беларусаў свету. Улада раптам заклапацілася не «лініяй Сталіна», а мемарыялам у Курапатах. Ужо былы рэдактар «Советской Белоруссии» Павел Якубовіч дастаў з архіваў КДБ справу Тодара Кляшторнага для Маі Кляшторнай — і гэта ўчынак.

І вось ужо старшыня Партыі БНФ (!) перамаўляецца з МЗС (!) наконт святочных мерапрыемстваў да стагоддзя БНР (!).

Можа быць, гэта і было б магчыма і без «справы Regnuma». Аднак яна дала пэўны сігнал: беларускасць — гэта ўжо не таўро «нацыяналіста». Больш таго, яна, беларускасць — вітаецца. І гэты сігнал таксама быў зразуметы.

# Дармаедаў ужо каля 250 тысяч

**Каля 250 тысяч чалавек могуць трапіць пад дзеянне дэкрэта №1. Такую лічбу назваў начальнік упраўлення палітыкі занятасці Мінпрацы Алег Токун у эфіры Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё.**

Для параўнання нагадаем, што паводле дэкрэта №3 падатковікі разаслалі каля 470 тысяч паведамленняў на выплату збору на дармаедства.

«Калі зыходзіць з балансу працоўных рэсурсаў Беларусі (на жаль, пакуль у нас ёсць вынікова звесткі толькі за 2016 год, за 2017 год будуць крыху пазней), то гэта можа быць прыкладна 250 тысяч чалавек. Мы пра іх чамусьці не ведаем. Гэта значыць афіцыйная статыстыка не ведае, чым яны займаюцца», — перадае tut.by словы чыноўніка.

Токун мяркуе, што часткова гэтыя людзі — мігранты, якія выехалі на заробкі ў іншыя краіны, а часткова — тыя, хто працуе нелегальна або без афармлення працоўных адносін, або сам на сябе без рэгістрацыі.

«Мяркую, што гэтыя людзі так ці інакш павінны чымсьці займацца ў сваім жыцці. І калі ён не працуе, не вучыцца, ці, напрыклад, не выхоўвае дзяцей, то трэба яго прыцягваць на рынак працы, даваць яму ў рукі новую прафесію ці прапаноўваць яму іншыя варыянты занятасці», — заявіў прадстаўнік Мінпрацы.

Для складання спіса непрацуючых працаздольных грамадзян, па словах Токуна, будзе створаная сістэма ўсіх інфармацыйных рэсурсаў, якія ёсць сёння ў Беларусі, каб выключыць магчымыя памылкі, якія былі раней. «Гэта будуць аб'яднаныя і базы даных Фонду сацыяльнай абароны, і базы даных тых, хто зарэгістраваўся беспрацоўным. Таксама мы будзем атрымліваць інфармацыю і ад падатковай інспекцыі, хто з'яўляецца індывідуальным прадпрымальнікам, рамеснікам, выплачвае нейкія іншыя падаткі і зборы. Гэта значыць, мы пастараемся максімальна адрэагаваць і сабраць глабальную базу даных, каб, крый божа, не памыліцца», — патлумачыў ён.

Як паведамлялася раней, падчас дзеяння дэкрэта №3 падатковыя органы часам рассылалі паведамленні пра неабходнасць заплаціць збор на дармаедства не толькі непрацуючым, але таксама інвалідам і нават памерлым.

Гаворачы пра паслугі, якія на 100% будуць аплачваць тыя, хто трапіў пад дзеянне дэкрэта №1, Токун выказаў меркаванне, што гэта хутчэй за ўсё будуць жыллёва-камунальныя паслугі. Механізм выплаты будзе вызначаны ўрадам.

25 студзеня Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт №1. Гэты дакумент замяніў ранейшы дэкрэт №3 і скасаваў выплату так званага збору на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў з непрацуючых грамадзян.

# III выстава «Праўда пра Курапаты»

Марат ГАРАВЫ

**Старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгору Сітніцы пададзена заяўка на правядзенне ў сталічным Палацы мастацтва III дакументальна-мастацкай выставы «Праўда пра Курапаты. Факты, дакументы, сведчанні».**

Заяўку 5 лютага падалі сябры аргкамітэта Міжнароднага адкрытага грамадскага творчага конкурсу «Курапаты — народны мемарыял» пад дэвізам «Праз Курапаты — да пакаяння» на найлепшую ідэю ўшанавання ў Нацыянальным некропалі памяці бязвінных ахвяраў савецкага таталітарызму.

Для падвядзення вынікаў гэтага конкурсу і яго адлюстравання старшыню БСМ просяць запланаваць фае Палаца мастацтва на два тыдні ў лістападзе-снежні 2018 года.

Нагадаем, што летась напрыканцы красавіка ў Палацы мастацтва адбылося ўзнагароджанне лаўрэатаў і ўдзельнікаў першага этапу конкурсу «Курапаты — народны мемарыял». Арганізатараў конкурсу — грамадскую ініцыятыву «Эксперты ў абарону Курапатаў» і суполку «Пагоня» Беларускага саюзу мастакоў — падтрымалі больш за 10 структур грамадзянскай супольнасці краіны.

З 10 сакавіка 2016 да 22 лютага 2017 года ў аргкамітэт конкурсу паступілі 44 працы ў скульптуры, інсталяцыі, графіцы, жывапісе, архітэктурна-ландшафтным праектаванні і літаратуры. Большасць гэтых прац трыццаці васьмі аўтараў з Беларусі і Польшчы ў лютым 2017 года экспанаваліся ў Мінску на II дакументальна-мастацкай выставе «Праўда пра Курапаты». Выставу за шэсць дзён наведалі больш за чатыры тысячы чалавек.

Зараз праводзіцца другі этап конкурсу, з умовамі якога можна пазнаёміцца на сайце vytoki.net.

# Кандыдат скардзіцца ў пракуратуру на парушэнне заканадаўства

**На адрас Аб'яднанай грамадзянскай партыі 4 лютага прыйшоў ліст, у якім паведамлялася, што кандыдат у дэпутаты Мінскага абласнога Савета дэпутатаў і Бараўлянскага сельскага Савета дэпутатаў Вольга Беляўцова напісала ў Пракуратуру заяву пра грубае парушэнне правоў грамадзян, звязанае з мясцовай выбарчай кампаніяй.**

Ліст з тлумачэннямі і копію заявы перадаў у АГП Віктар Барташэвіч, даверанaя асоба кандыдаткі. Цалкам тэкст заявы кандыдаткі змешчаны на партыйным сайце.

«Прашу правесці праверку па наступных фактах перашкоды ажыццяўленню выбарчых правоў, — піша кандыдат у дэпутаты Вольга Беляўцова. — Са слоў выбаршчыкаў вёскі Малінаўка Мінскага раёна Філіпава Яўгена Уладзіміравіча і самой Валянціны Уладзіміраўны (дом 22 а) каля 9 гадзін вечара 2 лютага 2018 гады трое работнікаў міліцыі ўвайшлі ў дом выбаршчыкаў, зрабілі ператрус, пасля чаго выявілі ўлётку кандыдата ў дэпутаты Беляўцовай А.С., якая была надрукаваная за кошт сродкаў выбарчага фонду апошняй і распаўсюджаная сярод жыхароў вёскі Малінаўка. Пасля чаго Філіпаву былі зададзеныя пытанні, ці не аплачвала Беляўцова ягоныя паслугі па распаўсюдзе ўлёткі.

Супрацоўнікі міліцыі палічылі гэта незаконнай агітацыйнаю дзейнасцю і пачалі казаць Філіпаву, што выбарчую ўлётку Беляўцовай суседзям ён передаваць не можа, што па змесце яна не адпавядае заканадаўству, паколькі зняшчае крытыку ўлады, таксама за распаўсюд агітацыйнай прадукцыі Філіпаву пагражалі адказнасцю. Пасля Філіпава правялі ў аўтамабіль, нібыта для складання пратакола, пасля чаго ў машыне, пагражаючы адказнасцю, прымусілі падпісаць тры чыстых лісты паперы, што было ім зроблена".

Гэтае здарэнне атрымала розгалас праз сюжэт, які быў паказаны на тэлеканале БелСАТ 5 лютага.

**«Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

# У беларускім цягніку не будзе беларускай мовы

Беларуская чыгунка патлумачыла, чаму ў беларускім саставе цягніка «Мінск — Вільня» інфармацыя падаецца выключна па-руску — паведамляе Радыё Свабода.

Паводле ведамства, інфармацыя на маніторах у цягніках паказваецца толькі па-руску, бо сістэма «Mitron», усталяваная ў беларускіх цягніках «Мінск — Вільня», «разлічана на выкарыстанне выключна рускай мовы». Сістэму апавяшчэння «Mitron» выпускае фінская кампанія «Teleste», прадукцыя якой вырабляецца ў Фінляндыі і Кітаі.

У адказе таксама гаворыцца, што няма інфармацыі пра планы дубляваць інфармацыю для пасажыраў па-беларуску і па-англійску.

У аддзеле арганізацыі пасажырскіх перавозак Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі паведамілі, што «вядуць распрацоўку магчымасці» агучвання інфармацыі ў цягніках «Мінск — Вільня» на беларускай і англійскай мовах. Праўда, дакладных тэрмінаў не назвалі.

# Праваабаронца падаў у суд на Міністэрства інфармацыі

**Скарга накіраваная ў суд Цэнтральнага раёна Мінска.**

Уей віцебскі праваабаронца Павел Левінаў піша, што ён з'яўляецца сталым чытачом сайта «Хартыі'97» і разлічвае на абарону сваіх інтарэсаў, бо «артыкул 60 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь гарантуе кожнай асобе абарону ягоных правоў кампетэнтным і незалежным судом».

Пра гэта Левінаў расказаў службе маніторынгу ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў».

У скарзе віцебскі праваабаронца зазначае, што блакіроўка інфармацыйнага рэсурсу парушае ягонае права на атрыманне інфармацыі і з'яўляецца недапушчальным абмежаваннем свабоды думкі і яе выражэння, супярэчыць палажэнням Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Павел Левінаў акцэнтуе ўвагу на тым, што рашэнне пра абмежаванне доступу да сайта прынятае нібыта па факце размяшчэння нейкай інфармацыі, распаўсюджванне якой забаронена артыкулам 38 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сродках масавай інфармацыі». Аднак Мінінфармацыі ніякім чынам не патлумачыла, якія менавіта матэрыялы сталі падставай для блакіроўкі, і не спаслалася на судовыя рашэнні або пастановы іншых органаў наконт абмежавання доступу да рэсурсу.

Таму Павел Левінаў просіць суд прызнаць, што рашэнне Міністэрства інфармацыі парушае ягоныя правы, і адмяніць гэтае рашэнне. А таксама патлумачыць падставы рашэння наконт блакіроўкі «Хартыі'97».

Папулярны інфармацыйны рэсурс charter97.org быў заблакаваны ў Беларусі 24 студзеня. Абыходзіць блакіроўку даводзіцца з дапамогай проксі-сервераў і VPN.

**Паводле baj.by**

# Дзе і калі перапахаваюць парэшткі Магдалены Радзівіл

**Як паведаміў сайт Catholic.by, 17 лютага ў мінскай парафіі Найсвяцейшай Тройцы (св. Роха) адбудзецца перазахаванне парэштак Магдалены Радзівіл.**

Мецэнатка і культурны дзеяч Марыя Магдалена Радзівіл ў свой час аказвала фінансавую падтрымку выдавецтву «Загляне сонца і ў наша аконца», газеце «Беларус», шпіталям, сельскім крамам і г. д.

У 1917 годзе яна ахвяравала дыяментавае кальe на заснаванне беларускай грэка-каталіцкай калегіі ў Рыме — грошы былі перададзены айцам марыянам у Друі.

Дзякуючы яе намаганням былі адкрыты беларускія школы ў рэгіёнах Беларусі. Мецэнатка плаціла стыпендыю студэнтам-беларусам, якія вучыліся ў Пецярбургу, падтрымлівала тамтэйшую беларускую бібліятэку.

«Яна лічыла сябе беларускай, яна марыла жыць у Мінску, таму гэта будзе вельмі сімвалічна, калі мы пахаваем прах Магдалены тут [...]», — адзначаў Мацей Радзівіл два гады таму, калі з'явілiся першыя чуткі пра магчымае перапахаванне ў Беларусі.

17 лютага пахавальную цырымонію ў 10.00 узначаліць дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі.

Па словах пробашча парафіі кс. Юрыя Санько, урна з парэшткамі Магдалены Радзівіл будзе выстаўлена для развітання ў касцёле вечарам 16 лютага, а перазахаваюць парэшткі ў левай частцы святыні. На тым месцы будзе ўсталявана памятная шыльда і барэльеф у гонар славутай мецэнаткі.

Пасля цырымоніі чакаюцца даклады пра асобу Магдалены Радзівіл і яе сувязь з Беларуссю.

На ўрачыстасць прыбудуць Мацей і Міхал Радзівілы, а таксама праўнучка Магдалены Радзівіл — Марылена Замойская.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Падняць непад'ёмнае

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Галоўнай падзеяй тыдня, безумоўна, стала адстаўка «алімпу» праўладных СМІ. Пасадаў пазбавіліся кіраўнік БТ Генадзь Давыдзька, чвэрцьстагоддзевы рэдактар «Советской Белоруссии» Павел Якубовіч і старшыня СТБ Юрый Казіятка. Фактычна — уся прапагандысцкая «вертыкаль».**

Нейк нават і сумна. Сышлі ў нябыт «маманты» беларускай прапаганды. Праўда, насамрэч, каб беларуская прапаганда нармальна працавала, рабіць гэта трэба было раней, і не так.

Тое, што «маманты» зніклі — цалкам лагічна і ўпісваецца ў, так бы мовіць, «выжыванне відаў». Свет імкліва змяняецца. І той, хто на гэтыя змены рэагаваць не здольны, натуральна, не выжывае. Узгадаем некалькі момантаў, якія папярэднічалі адстаўкам.

Напрыклад, анекдатычны выпадак, калі на абразлівае для Беларусі ток-шоў па тэлеканале НТВ «Саўбелка» адказала карыкатурай у стылі пачатку ХХ стагоддзя. З гэтага смяяўся ўвесь інтэрнэт: «Кукрыніксы супраць тэлевізара».

Альбо надаўнія няўдалыя спробы заблакаваць у Беларусі «Беларускі партызан» і «Хартыю'97». Па-мойму, такія рэчы робяцца толькі ад бяссілля. У сучасным свеце немагчыма заблакаваць сайты — існуе шмат пляцовак, на якіх усё роўна інфармацыя будзе прасочвацца. Напрыклад, тыя ж сацыяльныя сеткі. І таму спробы блакады рэсурсаў нічога, апроч бясплатнай рэкламы гэтым рэсурсам, не даюць. Гэтага дасюль не разумеюць ва ўладных кабінетах.

Паказальным момантам была і тая ж «Справа Regnuma»». Чамусьці антыбеларускім выказванням не супрацьстаялі беларускія прапагандысты. Гэтыя нападкі на Сінявокую адбівала, у асноўным, прэса недзяржаўная. А з боку дзяржавы спатрэбіўся суд і крымінальная справа, каб нейк сцішыць ці запаволіць прапаганду «рускага міру» ў Беларусі.

То-бок, беларуская ідэалагічная сістэма, пажыраючы агромністыя фінансавыя рэсурсы, апынулася цалкам бездапаможнай перад новымі выклікамі і сучаснымі тэхналогіямі. Яны не здолелі перавесці слова «змест» у слова «кантэнт», і рэагуюць на выклікі не творчымі высілкамі, а адміністрацыйным ціскам. У той час, як інфармацыю, што трапіла ў сеціва, ужо не спыніш.

Пэўна, асэнсаваўшы гэта, Аляксандр Рыгоравіч і вырашыў прывесці ў дзяржаўныя СМІ новых людзей. А паколькі гэтых новых людзей яму ўзяць няма адкуль, прыйшлося задаволіцца старымі. БТ узначаліў былы міліцыянт, вядучы БТ і муж прэс-сакратаркі Лукашэнкі Іван Эйсмант, кіраўніком «СБ» стаў кіраўнік БелТА Дзмітрый Жук, а на месца Казіяткі прыйшоў былы намеснік міністра інфармацыі Ігар Луцкі. Гэтых людзей цяжка назваць новымі. А значыць, і падыходы да інфармацыі і да ідэалагічнай барацьбы застануцца такімі ж тапорнымі, як былі і пры «мамантах».

Сам Лукашэнка адзначае: «Больш актыўна мы павінны працаваць і ў інтэрнэце. Вядома, дастаць моладзь з тэлефонаў і камп'ютараў і прымусіць чытаць газету ў нас, на жаль, ужо наўрад ці атрымаецца. Але ў такім выпадку там жа, у інтэрнэце, мы павінны прапанаваць ім узамен нешта цікавае, правільнае, аб'ектыўнае... Чакаю рашучых дзеянняў і ў гэтым кірунку».

А вось датычна тэлебачання: «Патрэбныя перамены. Калі вы ў мяне спытаеце, якія, я вам проста скажу: глядзіце замежнае тэлебачанне, навіны,

**Беларуская ідэалагічная сістэма, пажыраючы агромністыя фінансавыя рэсурсы, апынулася цалкам бездапаможнай перад новымі выклікамі і сучаснымі тэхналогіямі. Яны не здолелі перавесці слова «змест» у слова «кантэнт», і рэагуюць на выклікі не творчымі высілкамі, а адміністрацыйным ціскам**

«Еўраньюс» стаў нейк больш спакойным каналам, CNN, BBC, выбірайце лепшае па крупінках, але найлепшы арыенцір — расійскае тэлебачанне. Выдатна працуе тэлебачанне, але нам ні ў якім разе нельга скаціцца на тыя пазіцыі і тыя формы працы, якія сёння існуюць на расійскіх каналах», — адзначыў беларускі правадыр.

Па гэтых словах бачна, што Аляксандр Рыгоравіч, як бы слушна ўсё не гучала, сам застаецца ў мінулым. Так, можа быць, ён бачыць, што Мікалай робіць са сваім смартфонам. Але вось гэтае «больш актыўна працаваць у інтэрнэце» збянтэжвае.

І не толькі таму, што такіх заклікаў, як і іншых, было безліч. Бо што такое «інтэрнэт»? Зараз гэта — агульнае слова, якое азначае вельмі стракаты асяродак. У іх не вельмі атрымлівалася з сайтамі, перыяд сацыяльных сетак і блогінгу яны ўвогуле як і не бачылі. Зараз пачынаюць «руліць» месанджары, набывае другое жыццё RSS. Ці здолеюць нашы дзяржаўныя СМІ пераскочыць адразу некалькі прыступак у развіцці?

І яшчэ адзін, самы паказальны момант. Пасля адстаўкі прадстаўнікі недзяржаўных СМІ кінуліся размаўляць з былымі апанентамі. І гэтыя былыя апаненты ў адзін голас пачалі енчыць: «Невінаватая я! Ён сам прыйшоў!». Давыдзька, бачце, ніякім чынам не датычны да «Жалезам па шкле», а Якубовічу матэрыялы спускаліся з Савета Бяспекі, і ён, як «чалавек дзяржаўны», не мог іх не друкаваць. А там, дзе матэрыялы пісаліся аўтарамі «СБ» — дык крыніца была ў БТ. То-бок, у Давыдзькі...

Карацей, адразу ж пачалібся незразумелыя апраўданкі, нейкае мямлянне... Яскравы прыклад таго, што будзе са шматлікімі чыноўнікамі, калі Аляксандар Рыгоравіч сыдзе з пасады: усе мы не вечныя.

Новыя-старыя людзі ў дзяржаўных СМІ павінны змяніць сітуацыю на прапагандысцкім полі. І не проста змяніць — яны павінны выканаць старую задачу ў новых умовах. Не трэба забывацца, што наперадзе прэзідэнцкія выбары, якія, па словах старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай, могуць прайсці нават у наступным годзе. Між тым, фон для гэтых выбараў — не самы прыгожы. «Антыдармаедскія» выступы мінулага года прайшлі пад лозунгам, частка з якога гучала, як «Лукашэнка, сыходзь!». У тым жа 2019-м нас чакае ўвод у дзеянне новага «дармаедскага» дакумента і 100%-я аплата камуналкі. «Папяцсот» нікому не далі і наўрад дадуць — хіба што гэта потым скончыцца крахам ледзь-ледзь стабілізаванай фінансавай сістэмы. Людзі праядаюць апошнія зберажэнні, якія моцна схуднелі за часы крызісу. «У атамана скончыўся залаты запас», а грошай узяць няма адкуль.

Забяспечыць у такіх варунках «элегантную перамогу», нават пры існуючай мадэлі выбараў, будзе вельмі складана. І не менш складана будзе зрабіць тое, на чым трымаецца тая «перамога» — пераканаць электарат, што ўсё сапраўды прайшло так, як кажа Ярмошына па тэлевізары.

Для стварэння новай сістэмы пераканання старым-новым кіраўнікам дзяржпрапаганды адведзена год-паўтара. Ці здолеюць яны падняць непад'ёмнае і выканаць гэтую задачу?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Міхаіл Жамчужны

**Палітвязень быў збіты іншым вязнем у Горацкай калоніі №9, дзе ён адбывае пакаранне. Праваабаронцы лічаць, што жыццё Жамчужнага пад пагрозай.**

Як паведамляе праваабарончы сайт «Вясна», 24 студзеня ў раёне абеду Жамчужны быў пакінуты без аховы і нагляду ў калідоры санчасткі, дзе быў збіты іншым асуджаным — у чорных акулярах, вязаных чорных пальчатках і шапцы.

Жамчужны быў захоплены нападнікам левай рукой за горла і атрымаў некалькі ўдараў па галаве. Пры гэтым нападнік выказаў пагрозу, што калі сустрэне Жамчужнага ў калоніі — «распусціць на ніткі». Па дадзеным інцыдэнце палітвязнем пададзена скарга ў пракуратуру Магілёўскай вобласці.

Таксама стала вядома, што падчас знаходжання ў ПКТ (памяшканні камернага тыпу), куды Жамчужны быў змешчаны 5 студзеня тэрмінам на месяц за «невыкананне законнага патрабавання прадстаўніка адміністрацыі» ісці ў атрад, сфармаваны са зняволеных з «нізкім статусам», у адносінах да яго было вынесена яшчэ адно спагнанне – трое сутак штрафнога ізалятара. Пакаранне было вынесена за нібыта выяўлены ў яго камеры пыл, і з 20 да 23 студзеня ён ужо адбываў яго. Такім чынам, гэта ўжо 18-е спагнанне з часу змяшчэння Жамчужнага ў Горацкую калонію.

Нагадаем, заснавальнік «Платформ Інавэйшн» Міхаіл Жамчужны ў ліпені 2015 года быў асуджаны Віцебскім абласным судом на 6 гадоў зняволення ў калоніі строгага рэжыму. 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда прызначыла Жамчужнаму больш строгае пакаранне — шэсць з паловай гадоў пазбаўлення волі.

Беларускімі праваабаронцамі Міхаіл Жамчужны прызнаны палітычным зняволеным.



## Андрэй Раўкоў

**Міністр абароны Беларусі палічыў немэтазгодным абмяркоўваць з грамадствам праблему дзедаўшчыны ў войску.**

Пра гэта ён паведаміў у афіцыйным адказе на імя старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі і кіраўніка Руху «За свабоду» Юрася Губарэвіча.

Нагадаем, 17 студзеня Лябедзька і Губарэвіч прыйшлі на асабісты прыём да міністра ў Навагрудскім райвыканкаме. Яны вылучылі тры прапановы. Першае — правесці ў сакавіку-красавіку круглы стол па праблеме дзедаўшчыны ў войску. У ім планаваўся ўдзел як прадстаўнікоў Мінабароны, так і сябраў грамадскіх арганізацый, а таксама замежных экспертаў.

Другая — стварыць пры Мінабароны групу, якая працавала б над зменамі ў законе пра армію. Трэцяя прапанова — надаць ваеннай вучэльні імя Тадэвуша Касцюшкі замест Аляксандра Суворава.

«Лічу іх рэалізацыю немэтазгоднай», — лаканічна адказаў Раўкоў на прапановы апазіцыянераў.

«Міністр Раўкоў адпісаўся. Цуду не здарылася. Нашым генералам цяжка выбірацца з савецкага мінулага. Няма ні волі, ні жадання, ні ціску знізу, ні запыту зверху. Але не толькі гэта... Лепшым сродкам барацьбы з дзедаўшчынай генерал лічыць мінімум інфармацыі, якая прасочваецца з яго ведамства. З такой стратэгіяй застаецца толькі чакаць чарговага скандалу, і на жаль, чарговай дурной, бессэнсоўнай смерці», — пракаментаваў адказ Лябедзька.



## Дар'я Домрачава

**Беларуская асацыяцыя спартыўнай прэсы намінавала біятланістку на прыз World Fair Play Awards імя П'ера дэ Кубертэна.**

20 студзеня падчас гонкі праследавання на этапе Кубка свету ў Антхольцы беларуская біятланістка заваявала бронзавы медаль. Домрачава змагалася за срэбра з італьянкай Даратэяй Вірэр. На самым фінішы беларуска выпадкова наступіла на лыжную палку саперніцы, у выніку чаго Вірэр палку згубіла. Аднак Домрачава не скарысталася сітуацыяй і не стала абганяць саперніцу, аддаўшы ёй другое месца, праявіўшы fair play — сумленную гульню.

Гэты ўчынак ацанілі беларускія спартыўныя журналісты і адправілі ў Міжнародны камітэт Fair Play у Будапешт заяўку. Пра тое, хто атрымае гэты прыз, стане вядома ў канцы 2018 года.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Сіла дзяржавы як крыніца дэградацыі і галечы

**Бессэнсоўна распачынаць рэформы, калі не выконваюцца нават прынятыя законы.**

Днямі я наводзіў парадак на кніжных паліцах і натрапіў на кнігу «Моцная дзяржава» амерыканскага футуролага Фрэнсіса Фукуямы. Разгарнуў — і адразу ж пабачыў цікавае выказванне: «Я пачынаю аналіз ролі дзяржавы ў эканамічным развіцці з пастаноўкі такога пытання: якой дзяржавай з'яўляюцца Злучаныя Штаты — моцнай ці слабай? Выразны адказ на гэтае пытанне даў Ліпсет: амерыканскія дзяржаўныя і грамадскія інстытуты, задуманыя для паслаблення або змяншэння ўплыву дзяржаўнай улады. Злучаныя Штаты, народжаныя ў выніку паўстання супраць дзяржаўнага ўплыву...»

Парадокс! Сіла дзяржавы спароджаная слабасцю дзяржаўнай улады. Тое, што Злучаныя Штаты з'яўляюцца не проста моцнай, а супермоцнай дзяржавай, спадзяюся, даказваць не трэба. Нездарма ж улюбёны герой маіх «Азбук паліталогіі» любіць разважаць пра аднапалярны свет. Вось такая канцэнтрацыя сілы ў межах адной дзяржавы.

А як наконт сілы ўлады? У каго больш шанцаў рэалізаваць свае ўказы — у Трампа ці ў адзінага беларускага палітыка (АП)? Адказ відавочны.

Беларуская дзяржава паўстала на аскепках СССР ва ўмовах, калі, паводле трапнага выслоўя АП, «улада літаральна валялася ў брудзе». Наадварот, для ўстанаўлення ўласнай дзяржавы насельніцтву паўночнаамерыканскіх калоній давялося выйсці пераможцам у вайне за незалежнасць (1775–1783) супраць улады метраполіі, што з'явілася магутным штуршком для фармавання палітычнай антыдзяржаўнай культуры. Яе базавыя элементы: канстытуцыйныя абмежаванні дзяржаўнай улады, федэралізм, абарона правоў індывідаў і г. д.

## Практыка — крытэр ісціны

«Стабільнасць дзяржавы шмат у чым залежыць ад таго, наколькі моцная ўлада. Гісторыя паказвае: дзе ўлада слабая, там чакай бяды — заняпаду эканомікі, знешняга ўмяшання, развалу краіны, анархіі і кровапраліцця», — казаў АП у Пасланні–2017.

За прыкладамі, якія пацвярджаюць справядлівасць цытаты, далёка хадзіць не трэба. Дастаткова прыгадаць распад Югаславіі. Але якім тады чынам гэтая справядлівасць можа «мірна суіснаваць» са справядлівасцю Злучаных Штатаў?

Веданне азбучных паліталагічных ісцін дазваляе нам зразумець прычыну выяўленай супярэчнасці. Класік паліталогіі Макс Вебер вызначаў дзяржаву як «чалавечую супольнасць, якая прэтэндуе на манаполію законнага выкарыстання фізічнай сілы ўнутры дадзенай тэрыторыі». Але на што накіравана гэтая сіла? У выпадку са Злучанымі Штатамі — у першую чаргу на выкананне законаў, ад правілаў дарожнага руху да асноўных палажэнняў «Біля аб правах». Сфера актыўнасці амерыканскай дзяржавы абмежаваная, аднак унутры гэтай сферы здольнасць ствараць законы і забяспечваць іх выкананне вельмі моцная.

Сіла беларускай дзяржавы, калі і выдаткоўваецца на падтрыманне законнасці, дык выключна згодна з вядомым прынцыпам «сваім — усё, чужым — закон». Пры гэтым у шэрагі «чужых» залічваюцца не марсіяне і не жыхары Галапагоскіх выспаў, а палітычныя апаненты ўлады. Сама ж улада выкананнем законаў сябе не абцяжарвае. Гэта лёгка замацаваная ў Канстытуцыі 1996 года. Да яе ўвядзення каля 20 нарматыўных актаў, што падпісаў АП, былі прызнаныя Канстытуцыйным судом неадпаведнымі асноўнаму закону.

«Моцная ўлада, развітыя структуры кіравання, — на думку АП, — патрэбныя як для захавання сацыяльна-палітычнай стабільнасці ў краіне, так і для дзяржаўнага рэгулявання працэсу эканамічных пераўтварэнняў». Гэта дзякуючы моцнай уладзе эканоміку Беларусі ўдалося выцягнуць з «бездані эканамічнага крызісу», у той час як нашы найбліжэйшыя суседзі былі вымушаныя прызнаць, што лібералізацыя эканомікі «без моцнай уладнай вертыкалі вядзе да сацыяльнай нестабільнасці і прававога бязмежжа. Да грамадскай распушчанасці!».

Найбліжэйшыя суседзі — гэта не толькі Украіна, але і Польшча, і Літва, і Латвія. Апошнюю цытату я запазычыў з даклада АП на семінары кіруючых работнікаў у сакавіку 2002 года. Практыка — крытэр ісціны. Паводле якога б эканамічнага параметра мы сёння ні параўноўвалі б дасягненні беларускай мадэлі з еўрапейскімі суседзямі, вынік будзе не на нашу карысць.

Калі ў 1996 годзе, гэта значыць у год перамогі канстытуцыйнага права ў рэспубліцы-партызанцы, ВУП на душу насельніцтва складаў у Польшчы $4058, у Латвіі — $2460, у Літве — $2328, а ў Беларусі — $1423, дык праз дваццаць гадоў гэты паказчык падняўся да $12309, $14141, $14899 і $5092 адпаведна. Вось такая дынаміка, аднак. Грамадская распушчанасць супраць сацыяльна-палітычнай стабільнасці!

Але ВУП сыты не будзеш, запярэчаць мне прасунутыя чытачы. Згодны, таму прапаную параўнаць рэшту сярэднямесячнага даходу пасля вылічэння сярэдняга кошту камунальных паслуг. У палякаў у 2016 годзе ён склаў $873, у літоўцаў — $693, у латышоў — $450, у беларусаў — $327. Што тычыцца цэнаў на тавары, дык хто да каго ездзіць на шопінг, спадзяюся, тлумачыць не трэба.

## Я — начальнік, ты — дурань

Факты — упартая рэч. Больш упартым за факты можа быць толькі чалавек, які іх ацэньвае. Прыведзеная вышэй статыстыка не перашкаджае АП публічна заяўляць, што «сёння Беларусь — еўрапейская дзяржава, якая дынамічна развіваецца». Цікавая дэталь: поспех дасягнуты дзякуючы стаўцы «на найбагацейшы патэнцыял, назапашаны ў часы СССР».

**Сіла беларускай дзяржавы, калі і выдаткоўваецца на падтрыманне законнасці, дык выключна згодна з вядомым прынцыпам «сваім — усё, чужым — закон». Сама ж улада выкананнем законаў сябе не абцяжарвае**

Гэта значыць, што СССР збіраў свой патэнцыял на працягу 73 гадоў — збіраў-збіраў і развалiўся, так і не здолеўшы забяспечыць сваіх грамадзян варанай каўбасой за 2.20. Але назапашаны патэнцыял не знік. І праз 25 гадоў знаходзіцца палітык, які робіць на яго стаўку — і выйграе. Ну зусім як у казіно.

У 1946 годзе будучы нобелеўскі лаўрэат, эканаміст Фрыдрых Хаек, зразумела, не мог прадказаць «найвялікшую геапалітычную катастрофу XX стагоддзя». Тым не менш ён адзначаў, што тэхналагічная складанасць сучаснай эканомікі ўвесь час расце — і робіць цэнтралізаванае прыманне рашэнняў неэфектыўным. І чым большая складанасць — тым вышэйшай робіцца доля лакальнай інфармацыі, якая вядомая толькі мясцовым эканамічным агентам. Таму ніякі планавік не ў стане яе засвоіць і апрацаваць. Гэта значна лепш могуць зрабіць разгрупаваныя кіраўнікі, якія ўзаемадзейнічаюць на рынках.

Аднак тэхналагічная складанасць не можа нарастаць у грамадстве, дзе вытворчыя адносіны будуюцца паводле архаічнага прынцыпу «я — начальнік, ты — дурань». У часы пірамід такія адносіны, магчыма, і дэманстравалі сваю эфектыўнасць, але ўжо ў Сярэднявеччы ў еўрапейскіх гарадах існавалі выбарныя органы самакіравання. Гарады Вялікага Княства Літоўскага ў гэтым сэнсе не былі выключэннем. Выключэннем сёння з'яўляюцца гарады «еўрапейскай дзяржавы», што нібыта «дынамічна развіваецца», імя якой — Рэспубліка Беларусь.

«Па меры развіцця эканомікі ад індустрыяльнай да постіндустрыяльнай і ўсё большай яе залежнасці ад інфармацыі і падвышэння ўзроўню кваліфікацыі работнікаў, ступень дазволенай зверху свабоды дзеянняў таксама павінна павялічвацца», — падкрэслівае ўжо знаёмы нам амерыканскі футуролаг.

Так у тэорыі. Але АП прызвычаіўся ісці «ад жыцця». А жыццё для падтрымання грамадска-палітычнай стабільнасці патрабуе адпаведнасці паміж складанасцю ўлады і складанасцю грамадства. Але паколькі нічога прасцей за ўладную вертыкаль чалавецтва не прыдумала, даводзіцца абмяжоўваць любыя спробы грамадзян да самаарганізацыі.




## Адзінае адрозненне

«Беларусь — маладая краіна, – заявіў часовы паверaны РБ у ЗША Павел Шыдлоўскі, – што не замінае ёй мець агульныя мэты з заходнімі партнёрамі. Адзінае адрозненне — хуткасць рэформаў. Мы не можам змяніць сітуацыю ў адзін момант».

Вось такі погляд на праблему! Заходжу на сайт ЦВК. На прэзідэнцкіх выбарах у 2015 годзе ў склад участковых выбарчых камісій ад апазіцыйных партый было ўключана 6% ад колькасці выбуючых, а ад праўладных — 86,4%. Цікава, якія рэформы і з якой хуткасцю неабходна правесці для ліквідацыі гэтага абуральнага дысбалансу?

Я не спецыяліст, але акрамя прыцягнення вінаватых да адказнасці нічога прапанаваць не магу. Тым не менш, я ўпэўнены, што мая прапанова здольная дысбаланс ліквідаваць, прычым з першага разу. Галоўнае, каб крайнімі не апынуліся стрэлачнікі.

Што выйграе сярэднестатыстычны беларус ад рэалізацыі маёй прапановы? У кароткатэрміновай перспектыве НІ-ЧО-ГА. Але адкрыем у інтэрнэце спіс краін паводле ВУП на душу насельніцтва па парытэце пакупніцкай здольнасці. Калі выключыць іх з групы-краін з невялікай колькасцю насельніцтва, але вялікім аб'ёмам вуглевадародаў, што імі здабываюцца, дык «моцных» (у тым сэнсе, у якім яго разумее АП) там не знойдзецца.

# «Зняволеным у нашай дзяржаве можа стаць любы чалавек»

Зінаіда ЦІМОШАК

**У Слуцку вынесены яшчэ адзін прысуд, які шмат хто лічыць сумнеўным. Прынамсі, калі б справу разглядаў суд прысяжных, ён вынес бы апраўдальны вердыкт. Адвакатка аднаго з падсудных наогул лічыць справу сфабрыкаванай.**

На першы погляд, справа падаецца зусім простай. Неаднойчы судзімы Алег Герасімовіч быў абвінавачаны ў крадзяжы гаманца з сумкі жанчыны, якая адпачывала з сябрамі ў слуцкім начным клубе «Паркінг» 9 верасня. 11 верасня ён і яго знаёмы Яўген Пашкевіч былі затрыманы супрацоўнікамі Слуцкага РАУС і да суда амаль 5 месяцаў знаходзіліся ў СІЗА. За злачынства, прадугледжанае часткай 2 артыкула 205 Крымінальнага кодэкса (крадзеж групай асоб), суд прысудзіў Герасімовічу год і тры месяцы папраўчай калоніі строгага рэжыму. Яўген Пашкевіч, які знаходзіўся разам з Герасімовічам у клубе, быў пакараны трыма месяцамі арышту за «пасобніцтва ў крадзяжы».

### Змененыя паказанні

Усім знаёмы выраз: «Злодзей павінен сядзець у турме». Грамадзяне, якія не прысутнічалі ў судзе, будуць задаволены пакараннем яшчэ аднаго злодзея і яго «пасобніка». Зусім інакш паставіліся да абвінаваўчага прысуду людзі, якія ўважліва выслухалі довады абодвух бакоў і супярэчлівыя паказанні пацярпелай і яе сведкаў.

Чамусьці ў першапачатковых паказаннях міліцыянтам пацярпелая казала, што адсутнасць грошай заўважыла толькі назаўтра дома, калі збіралася ў краму. Муж паказаў, што яму яна сказала пра адсутнасць грошай толькі ў краме. Падчас следства паказанні радыкальна былі зменены: цяпер ужо адсутнасць грошай была заўважана ўсімі ў таксоўцы адразу пасля ад'езду з «Паркінга».

Адвакатка выказала думку, што такія паказанні былі зменены пацярпелай пасля сумеснага прагляду з міліцыянтамі відэазапісу адпачынку ў клубе, бо міліцыянты там заўважылі Алега Герасімовіча.

### Ці быў хлопчык…

На відэа следчыя заўважылі, што пацярпелая падчас танцаў паставіла сваю сумку непадалёк ад Алега Герасімовіча, які праз некаторы час зрабіў нейкі рух рукой у бок сумкі. Следчыя палічылі, што ён выкраў з сумкі гаманец і перадаў свайму сябру, каб той выйшаў на вуліцу і там дастаў грошы.

Падчас прагляду відэазапісаў у судзе ніхто з прысутных у зале суда, у тым ліку і карэспандэнт «НЧ», ніякай крамолы ў паводзінах Герасімовіча і Пашкевіча і рухах іх рук не заўважылі. Мужчыны ціха-мірна сядзелі за столікам, размаўлялі са знаёмымі дзяўчатамі і ніякіх актыўных зладзейскіх дзеянняў не рабілі. Ва ўсялякім выпадку, на відэа рука Герасімовіча ўнутры сумкі не была заўважана.

А, пагадзіцеся, сядзець у клубе за столікам 3 гадзіны і не зварухнуцца ў той ці іншы бок — нерэальна для любога чалавека. Да таго ж Пашкевіч патлумачыў, што ў яго не было з сабой грошай, а Герасімовіч перыядычна перадаваў яму цыгарэты і грошы на напоі. Следства і суд ўгледзелі ў гэтай перадачы зладзейскія дзеянні, звязаныя з перадачай гаманца.

Дарэчы, гаманец, які Пашкевіч нібыта вынес з клуба ў кішэні, каб вытрасці адтуль грошы і пасля вярнуць у сумку, падчас судовага следства нават не залез у кішэню — занадта вялікі.

Яшчэ адзін сумнеўны доказ — наяўнасць сліны пацярпелай на адной са 100-доларавых купюр, нібыта знойдзеных у кішэні Герасімовіча пры яго затрыманні праз дзень. Вось толькі ніякіх біялагічных слядоў самога Герасімовіча на гэтай грашовай адзінцы не выяўлена. Затое ўпакоўка грошай следчымі чамусьці праводзілася двойчы і з парушэннем заканадаўства.

Цікава, што каля гэтай жа расхрыстанай і безнагляднай сумкі, якая нібыта знарок была пакінута на самым праходзе, на відэа былі заўважаны падазроны малады чалавек. Ён шмат часу круціўся каля яе і рабіў нейкія маніпуляцыі, але яго фігура бачная толькі напалову.

### Красці не па статусе

Абвінавачаны Алег Герасімовіч — асоба цікавая. Кажуць, што ён быў «злодзеем у законе», караным на сходцы ў Дубаі ў снежні 2012 года. Але сваё «званне» адстаяць не здолеў. Герасімовіч мае не адну судзімасць за іншыя злачынствы, але гаманцоў ніколі не краў.

Ён распавёў у судзе, што пра крадзеж ў «Паркінгу» яму стала вядома ад знаёмых на наступны ж дзень. А паколькі ён знаходзіцца пад міліцэйскім наглядам, гэтая навіна яго занепакоіла, і ён папрасіў дырэктара клуба дазволу праглядзець відэа. Пабачыўшы на відэа знаёмага падазронага чалавека, ён патэлефанаваў таму і параіў «вырашыць праблему».

«Я сказаў па тэлефоне чалавеку, якога заўважыў у клубе, што не хачу адказваць за чужое злачынства, і мне не патрэбныя праблемы», — распавядаў Герасімовіч.

У той жа дзень у сваім двары пацярпелая «знайшла» пакет, дзе ляжалі 500 долараў. Такім чынам крадзеж, калі ён меў месца, быў перакрыты з лішкам — пацярпелая сцвярджала, што былі скрадзены 403 долары і невялікая сума ў беларускіх грошах.

### Нашто прарабу чужы гаманец

Што тычыцца другога падсуднага, Яўгена Пашкевіча, то ён ведае Герасімовіча з дзяцінства, раслі побач. Пашкевіч каля 20 гадоў жыве ў Расіі, працуе прарабам у адной кампаніі. У Слуцк прыязджае наведаць хворую маці, якая стала горш пачувацца пасля смерці бацькі.

У судзе была зачытана характарыстыка з месца працы, якая паказвае Пашкевіча як ідэальнага працаўніка і прыстойнага чалавека.

Пасля вынясення прысуду аб пакаранні арыштам на 3 месяцы, ён адразу быў вызвалены. Яўген у Жодзінскім СІЗА адсядзеў каля 5 месяцаў і цяпер вельмі задаволены, што яго ўрэшце выпусцілі.

— Удзячны суду за мяккі прысуд, — гаворыць Яўген. — Я ні ў чым не вінаваты, ніколі ў сваім жыцці нічога і ні ў каго не краў. Але ў Жодзінскім СІЗА я нагледзеўся на людзей, якія сядзяць ні за што ў турмах па 4-5 гадоў. У жудасных нечалавечых умовах. Гляджу на свае турэмныя прыгоды, на ланцугі і клеткі як на нешта недарэчнае, але характэрнае для нашага правасуддзя. На жаль, зняволеным у нашай дзяржаве можа стаць любы чалавек.

Мужчына нават не хоча абскарджваць прысуд, бо баіцца мець далейшыя зносіны з беларускай Фемідай ды нашкодзіць Алегу Герасімовічу.

Яўген распавёў, што следчыя падчас допытаў настойвалі, каб ён даў паказанні на Герасімовіча, і абяцалі яго адразу выпусціць.

— Адным з доказаў у судзе гучала версія, што Герасімовіч перадаў мне гаманец, які я нібыта вынес у кішэні сваёй байкі, — гаворыць Яўген. — Следчыя нібыта праводзілі следчы эксперымент у кавярні, але нас, галоўных герояў, туды нават не запрасілі. І ўсе ў судзе бачылі, што гаманец у кішэню маёй байкі нават не лезе. Гэтак жа ён не змяшчаецца і ў руцэ Герасімовіча. Як я мог казаць, што Герасімовіч нешта краў, калі ён не краў?

У Расіі Яўген нядрэнна зарабляе, апрануты ў дарагія рэчы. Абвінавачванне ў крадзяжы гаманца, па яго словах, зневажае яго годнасць.

### 9 скаргаў — 1 адказ

Родзічы і знаёмыя Яўгена Пашкевіча лічаць, што ён адседзеў амаль 5 месяцаў у СІЗА з-за сваёй прыстойнасці.

— Яму казалі «здаць» Герасімовіча, але ён не мог гэтага зрабіць, бо з дзяцінства прыстойны чалавек, — распавядае маці Яўгена Валянціна Пашкевіч. — Я не мела з ім ніякіх клопатаў. Ён ніводнага разу ні з кім не пабіўся, і яго неяк ніхто не чапаў.

Валянціна гаворыць, што пасля нечаканага і гвалтоўнага арышту Яўгена жыве толькі на ўколах і таблетках.

— Міліцыянты наляцелі з крыкам і гвалтам, мы з сястрой тады ледзьве не ўтрупянелі, — успамінае пра затрыманне сына ў верасні жанчына. — Нечага шукалі, палезлі на гарышча, выламалі там дзверы, нягледзячы на ключ, які тырчаў у дзвярах. Як быццам мы схавалі нейкага тэрарыста з бомбай. Да гэтага часу не магу адысці ад таго жаху.

Валянціна Пашкевіч напісала 9 скаргаў у следчыя і пракурорскія інстанцыі на абставіны міліцэйскага налёту, але толькі пасля суда атрымала адзін адказ аб правамернасці дзеянняў праваахоўнікаў.

Маці добра ведае гісторыю братоў Барбашынскіх, адзін з якіх раптоўна памёр ў Жодзінскім СІЗА яшчэ падчас суда. Таму вельмі перажывала, каб з сынам было ўсё добра.

### Шмат прэтэнзій да следства

Адвакатка Герасімовіча Святлана Лабоха лічыць, што справа супраць яе кліента і Яўгена Пашкевіча наўпрост сфабрыкаваная, і мае шмат прэтэнзій да слуцкіх следчых.

Выступаючы ў абарону Герасімовіча яна заявіла суду аб адсутнасці рэальных доказаў яго злачынства і наяўнасці сумнеўных доказаў. Яна папрасіла суддзю накіраваць інфармацыю пра гэта пракурору для вырашэння пытання аб прыцягненні следчых да адказнасці.

— Пры знаёмстве са справай Герасімовіча ў мяне з'явілася ўражанне, што камусьці хочацца, каб Герасімовіч увесь час сядзеў. Таму над ім існуе такі жорсткі кантроль і яго садзяць у турму за парушэнне прэвентыўнага нагляду нават за нязначную правіннасць: перайшоў дарогу ў не тым месцы, запаліў не ў тым месцы, — гаворыць абаронца. — А ў дадзеным выпадку абвінавачванне наогул грунтуецца толькі на домыслах і здагадках, згодна якіх нельга выносіць абвінаваўчы прысуд.

На думку абаронцы, Яўген Пашкевіч, увогуле, трапіў «пад раздачу».

Цікава, што абодва абвінавачаныя падпісалі дамову на абарону менавіта са Святланай Лабоха, але суддзя Аляксандр Шутко дазволіў ёй абараняць толькі Герасімовіча. Пашкевічу далі дзяржаўнага адваката ўжо падчас судовага працэсу.

Шмат хто са случчан, з якімі я размаўляла, не верыць, што былы «злодзей у законе», які засёды пры грашах, такі дурны, што паквапіўся на гаманец, седзячы пад відэакамерай.

Некаторыя мяркуюць, што калі б справу Герасімовіча і Пашкевіча разглядаў суд прысяжных, вердыкт быў бы — «Не вінаватыя».

Тым не менш, 1 лютага суддзя Аляксандр Шутко вынес абвінаваўчы прысуд. Абвінавачаныя таксама павінны заплаціць за судовую экспертызу, заказаную следствам, каля 1 000 долараў. Дарэчы, яны заплацяць за экспертызу, якая фактычна з'яўляецца доказам іх невінаватасці.



# Чырвоныя рэаніматары

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Дваццаць пяць гадоў таму, 3 лютага 1993 года, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў важнае рашэнне. Яно было аформлена ў выглядзе пастановы, якая, аднак, па сваім палітычным значэнні пераўзыходзіла законы і кодэксы разам узятыя.**




**Стваральнікі ПКБ верылі, што яна возьме свае.** Крыніца: «Мы и время» (1992)

Пастанова №2161-XII сведчыла пра ўзмацненне антырэфарматарскіх сіл у вышэйшым органе дзяржаўнай улады і адлюстравала погляды насельніцтва, якое ва ўмовах паглыблення сацыяльна-эканамічнага крызісу ўсё больш выказвала сімпатыі левым сілам. Дакумент называўся «Аб прызнанні страціўшай сілу пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусі «Аб часовым прыпыненні дзейнасці КПБ-КПСС на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь».

Такім чынам, камуністычная партыя, якая ў Беларусі больш за паўтара года знаходзілася пад забаронай, была рэабілітаваная.



## Пад замком

Пасля няўдалага путчу ГКЧП, 25 жніўня 1991 года на пятай нечарговай сесіі шмат дэпутатаў, у тым ліку ад парламенцкай апазіцыі Беларускага Народнага Фронту (БНФ), настойвалі на катэгарычнай забароне Камуністычнай партыі як выключна злачыннай арганізацыі. Адна такая ініцыятыва не дазваляла набраць неабходную колькасць галасоў. Тады першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч прапанаваў зацвердзіць пункт аб часовай забароне дзейнасці КПБ-КПСС на тэрыторыі Беларусі. Большасць парламентарыяў знайшла такую фармулёўку цалкам прымальнай. У выніку Камуністычная партыя, якая была «дзяржавай у дзяржаве», правадніком рэпрэсій і масавых парушэнняў законнасці, сама апынулася пад часовай, але ж забаронай.

Тагачасныя беларускія ўлады даволі паслядоўна выконвалі тую пастанову Вярхоўнага Савета. Напрыклад, калі гарсавет Баранавічаў прыняў рашэнне аб рэгістрацыі Баранавіцкай арганізацыі камуністаў, то генеральны пракурор Беларусі Мікалай Ігнатовіч накіраваў пратэст, дзе гаварылася, што падобная рэгістрацыя — спроба адрадзіць камуністычную партыю.

## «Врагу не сдаётся...»

Аднак камуністы былі ўпэўненыя ў сваіх сілах. 7 снежня 1991 года, у час візіту ў беларускую сталіцу расійскага прэзідэнта Барыса Ельцына (які на наступны дзень у Віскулях падпісаў з Шушкевічам і са сваім украінскім калегам Леанідам Краўчуком Белавежскае пагадненне пра роспуск СССР) у Мінску адбыўся ўстаноўчы з'езд Партыі камуністаў Беларусі (ПКБ). На сходзе прысутнічаў 281 чалавек з 317 абраных. З'езд сфармаваў Палітсавет партыі і Цэнтральную рэвізійную камісію. У Палітсавет, напрыклад, увайшлі галоўны рэдактар камуністычнай газеты «Мы и время» Віктар Чыкін, Сяргей Калякін і іншыя.

У праграмнай заяве ПКБ гаворка ішла пра тое, што партыя «вступает на арену политической деятельности в качестве правопреемницы КПБ». Асновай ідэалогіі ПКБ абвяшчалася «материалистическая диалектика».

Устаноўчы з'езд зацвердзіў дзве даволі рэзкія рэзалюцыі. Адна з іх тычылася маёмасці былой КПБ. ПКБ фактычна абвясціла сябе гаспадаром той часткі маёмасці, якая была створана «на взносы коммунистов». У рэзалюцыі агучваліся патрабаванні перадачы шэрага будынкаў былой КПБ адпаведным установам і арганізацыям. Напрыклад, комплекс «Дразды» рэзалюцыя патрабавала перадаць Савету Міністраў. Сродкі ад Саюза ССР на ліквідацыю наступстваў Чарнобыльскай аварыі рэзалюцыя патрабавала перадаць «в распоряжение советских органов».

У другой рэзалюцыі рэзка крытыкавалася пастанова Вярхоўнага Савета аб часовай забароне дзейнасці КПБ-КПСС: «Подлинная причина в запрете КПБ состоит в желании её политических противников убрать с политической арены организованную силу, способную воспрепятствовать тотальной капитализации республики и выводу её из Союза». У рэзалюцыі заклікалася скасаваць пастанову на бліжэйшай жа сесіі парламента і «смыть позорное антидемократическое пятно с лица молодой независимой республики».

Жаданне ПКБ стаць «правопреемницей» былой КПБ і гэтыя рэзалюцыі не засталіся без увагі: 13 сакавіка 1992 года ПКБ было адмоўлена ў рэгістрацыі. У адпаведным рашэнні Мінюста гаварылася, што «партия на самом деле только сменила вывеску, и что те, кто участвовал в создании ПКБ, не вышли из КПБ».

Наўздагон парламенцкая апазіцыя БНФ 30 сакавіка 1992 года распаўсюдзіла спецыяльную заяву да грамадска-палітычных арганізацый і партый, рухаў, грамадзянаў Рэспублікі Беларусь, да ўсіх ахвяраў камуністычнага тэрору. У заяве заклікалася забараніць кампартыю, а яе дзеянні прызнаць злачыннымі.

Але ўпартасць камуністаў не ведала межаў. Яны здолелі дайсці да Вярхоўнага Суда. 14 мая 1992 года яго калегія адмяніла папярэдняе рашэнне Мінюста. Камуністам вельмі дапамагло, што яшчэ 14 лютага 1992 года в. а. генеральнага пракурора Кандрацьеў накіраваў старшыні Вярхоўнага Савета Станіславу Шушкевічу інфармацыю пра выкананне даручэння Вярхоўнага Савета вывучэння справы аб датычнасці КПБ да жнівеньскага путчу 1991 года. Па словах Кандрацьева, кіраўніцтва КПБ у часе путчу заняло пасіўную пазіцыю, аднак непасрэднай сувязі КПБ і маскоўскіх путчыстаў не маецца. Ацэньваючы зварот Аргбюро ЦК КПБ ад 20 жніўня 1991 года (шмат хто расцаніў яго як падтрымку путчыстаў), Кандрацьеў адзначаў, што зварот — «политический документ, положения которого юридической оценке не подлежат». Кандрацьеў таксама паведаміў, што крымінальная справа па пытанні сувязі КПБ і путчу 19–21 жніўня 1991 года ў Маскве спыненая 31 студзеня 1992 года.

## Міхаіл Качан і выпадак з Сяргеем Навумчыкам

Рэгістрацыя ПКБ адбылася 26 мая 1992 года. Пасля яе камуністы ўзялі курс на адмену пастановы аб часовым прыпыненні КПБ-КПСС. Зрабіць гэта можна было толькі на чарговай парламенцкай сесіі, якая пачыналася 20 кастрычніка 1992 года (папярэдняя — дзявятая — сесія скончыла сваю працу ў красавіку). У дзень адкрыцця сесіі камуністы зладзілі мітынг на плошчы Незалежнасці, а газета «Мы и время» распачала (у межах сваіх магчымасцяў) апрацоўку грамадскай думкі на карысць адмены пастановы. У адным з нумароў выдання было апублікавана 9 міні-лістовак з васямнаццацю пунктамі-патрабаваннямі. У апошнім пункце меўся заклік адрадзіць КПБ.

Галоўную місію ўзяў на сябе фактычны кіраўнік дэпутацкай групы Міхаіл Качан, які 20 кастрычніка 1992 года зачытаў заяву 23 парламентарыяў аб неабходнасці ўнясення пытання ад адмене пастановы №2161-XII у парадак дня. Таксама была вырашана аб правядзенні паіменнага галасавання, у выніку чаго станавілася вядома, як прагаласаваў той ці іншы дэпутат. З 240 народных абраннікаў, якія ўзялі ўдзел у галасаванні, ініцыятыву Качана падтрымалі 186. Супраць выказаліся 37.

Лагічна, што супраць галасавалі прадстаўнікі БНФ: Мікалай Аксаміт, Сяргей Антончык, Галіна Сямдзянава, Ігар Гермянчук і іншыя, або зусім не галасавалі, як напрыклад, Зянон Пазьняк. Аднак з імі аказаліся салідарнымі і дэпутаты, якія не адносілі сябе да парламенцкай апазіцыі: галоўны рэдактар «Народнай газеты» Іосіф Сярэдзіч, Інэса Драбышэўская (будучы міністр аховы здароўя ў Лукашэнкаўскім урадзе), Аляксандр Сасноў, старшыня пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях працы, цэнаў, занятасці і сацыяльнай абароны насельніцтва (будучы міністр працы ва ўрадзе Лукашэнкі).

Цікава, што супраць прагаласаваў дэпутат Яўген Бачароў, начальнік Галоўнага ўпраўлення Памежных войскаў пры Савеце Міністраў (кіраўнік Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч не прыняў удзел у галасаванні).

Супраць прагаласаваў старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч (будучы кіраўнік парламента Мечыслаў Грыб не прыняў удзел у галасаванні). Не прынялі ўдзел у галасаванні і такія вядомыя дэпутаты, як Дзмітрый Булахаў і Віктар Ганчар.

За ўключэнне пытання ў парадак дня прагаласавалі Аляксандр Лукашэнка і будучыя важныя персоны: славік Віктар Шэйман, будучы «чорны маклер» Лукашэнкі Іван Ціцянкоў. На баку кампартыі выступілі старшыня выканкама Гродзенскага абласвета Дзмітрый Арцыменя (забіты 20 верасня 1993 года), былы старшыня Вярхоўнага Савета Мікалай Дземянцей, намеснік начальніка Фрунзенскага РАУС г. Мінска Міхаіл Цесавец (той самы, які па загадзе Лукашэнкі ў ноч з 11 на 12 красавіка 1995 года кіраваў збіццём і гвалтоўнай эвакуацыяй дэпутатаў ад парламенцкай апазіцыі з будынка Вярхоўнага Савета, і на гэтым пабудаваў сваю кар'еру), старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па эканамічнай рэформе, дасягненні эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі Леанід Козік (будучы намеснік прэм'ер-міністра ў Лукашэнкаўскім урадзе, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта і шматгадовы афіцыйны прафсаюзны бос пры Лукашэнку).

«За» прагаласаваў народны паэт, старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч.

Не абышлося без невялікай, але ж свайго роду сенсацыі. Апазіцыйная газета «Свабода» надрукавала спіс тых дэпутатаў, якія прагаласавалі «за». Іх было 187, і сярод іх фігураваў... Сяргей Навумчык, які з'яўляўся каардынатарам парламенцкай апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце дванаццатага склікання.

Неўзабаве ўсе кропкі над «і» былі расстаўленыя. Галасаванне «за» Сяргея Навумчыка было ўсяго недарэчнай памылкай. У адпаведных архіўных дакументах маецца запіс пра тое, што дэпутат звярнуўся ў Сакратарыят сесіі з заявай аб далучэнні свайго голасу да тых, што «супраць». У наступным бліжэйшым нумары сваю памылку выправіла і «Свабода».

## Парламенцкі «слэшэр» 3 лютага 1993 года

Менавіта ў гэты дзень пачалося абмеркаванне пытання аб адмене знакамітай пастановы. Але чаму камуністам прыйшлося чакаць занадта доўга? Справа ў тым, што паміж чарговымі дзявятай і дзясятай сесіямі Вярхоўнага Савета прайшло амаль шэсць месяцаў. Пытанняў назапасілася шмат. І не проста пытанняў, а вельмі важных для дзяржавы: новая Канстытуцыя, рэферэндум аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савета і правядзенні новых выбараў на падставе законапраекта ад апазіцыі БНФ, карупцыя і арганізаваная злачыннасць. У студзені 1993 года дэпутаты прыступілі да разгляду законапраектаў аб прыватызацыі і уласнасці на зямлю. Гэтым і тлумачыцца, што пытанне пра аднаўленне КПБ разглядалася ледзь не апошнім (сама дзясятая сесія Вярхоўнага Савета 12 склікання доўжылася амаль чатыры месяцы).

Увесь гэты час камуністы праводзілі ўпартую працу. Напрыклад, 27 і 28 студзеня 1993 года яны арганізавалі пікетаванне каля будынка Вярхоўнага Савета з лозунгам: «Депутат, отмени позорное постановление по КПБ!»

А што ж дэпутаты?

3 лютага 1993 года выступіў дэпутат Качан. У сваёй эмацыйнай прамове Міхаіл Арцем'евіч заклікаў калегаў «не поддаваться сердечным порывам, а подчиниться разуму». Па словах Качана, кампартыю забаранялі толькі ў таталітарных краінах: пры Гітлеры, Франка, Піначчэ і Салазары. Скончыўшы выступ словамі пра тое, што «партия — не лавка, чтобы её закрывать», Качан ультыматыўна патрабаваў прагаласаваць за адмену пастановы без дыскусій.

Прававую пікантнасць сітуацыі даходліва растлумачыў юрыст, старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па заканадаўстве Дзмітрый Булахаў. Па яго словах, увогуле няма прадмета для дыскусій, бо фармальна ні СССР, ні КПБ-КПСС ужо не існуюць: «Есть группа людей, которые идентифицируют свои взгляды со взглядами Компартии СССР». Больш таго, працягваў Булахаў, Кампартыя БССР была зарэгістравана 4 чэрвеня 1991 года без уласнага статута, а XXXI з'езд КПБ (лістапад-снежань 1990 года) вырашыў, што ў сваёй дзейнасці беларуская камуністы будуць кіравацца статутам КПСС. Аднак КПСС ужо няма, працягваў Булахаў. І што рабіць?

Аднак Дзмітрый Булахаў у сваёй звыклай манеры «ні вашым, ні нашым» запэўніў, што не дае ніякіх рэкамендацый: «Это вопрос политический, его надо решать нажатием кнопок».

На разгляд дэпутатаў былі прапанаваны тры праекты пастаноў: Качана (пастанову №2161-XII лічыць страціўшай сілу), дэпутата Ігара Пырха і ад апазіцыі БНФ. Ігар Пырх належаў да парламенцкай апазіцыі БНФ і вылучэнне ад яго імя ўласнага праекта пастановы было, хутчэй, тактычным ходам, каб расталоць агульны фронт прыхільнікаў адмены пастановы.

Яшчэ напачатку дзейнасці Вярхоўнага Савета 12 склікання Ігар Пырх (дарэчы, супрацоўнік праваахоўных органаў) зарэкамендаваў сябе ў якасці зацятага антыкамуніста. 17 ліпеня 1990 года ён зачытаў у парламенце заяву, падпісаную ім і дэпутатам Барысам Гюнтэрам. У ёй КПСС называлася «воинствующим отрядом», «тормозом происходящей в стране перестройки». КПБ, у сваю чаргу, была пайменавана «наиболее консервативным звеном КПСС». Так што выхад Пырха быў не выпадковым. Праект яго пастановы зводзіўся да таго, што структуры КПСС ужо не дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі і не маюць для гэтага прававых асноў.

У праекце ад апазіцыі БНФ гаварылася, што ў сувязі з распадам СССР немагчыма аднаўленне дзейнасці КПБ-КПСС у Рэспубліцы Беларусь.

Па выніках пайменнага галасавання за аснову быў прыняты праект Качана. Яго падтрымалі 188 дэпутатаў (пры кворуме ў 173) з 236, якія прынялі ўдзел у галасаванні. За праект Пырха прагаласавалі 75 са 147, а за праект апазіцыі — 35 са 122.

Станіслаў Шушкевіч заявіў, што галасаваў супраць праекта Качана, бо КПСС, па словах старшыні парламента, знявечыла мільёны лёсаў, і што дзякуючы кампартыі многія беларусы апынуліся ў Магадане і Сібіры.

Здавалася б, яшчэ крок — і перамога Качана была б яўнай. Аднак для зацвярджэння праекта пастановы не хапіла двух галасоў: «за» прагаласаваў 171 дэпутат.

Шушкевіч абвясціў пытанне закрытым, аднак кансерватыўная парламенцкая большасць атакавала старшыню. Сітуацыю ўзрушыў дэпутат Васіль Чэпік, які заявіў, што «не сработало табло», а таму трэба прагаласаваць, як гэта часта бывала ў сцэнах парламента. Чэпіка патрымаў Мікалай Лакцюшын, які заявіў, што калі Шушкевіч не паставіць пытанне на паўторнае галасаванне, то «народ его не поймёт».

За паўторнае галасаванне выказаўся і Лукашэнка, які абвінаваціў Шушкевіча ў тым, што той «костыляет» дэпутатаў і «раскрутил бодягу на весь парламент»: «Когда мы говорили о суверенитете и принимали атрибуты этого суверенитета, мы много раз переголосовывали, и другая сторона была довольна». Калі юрысты мелі б жаданне, сцвярджаў Лукашэнка, яны зарэгістравалі б любую партыю без наяўнасці статута.

Шушкевіч спачатку рашуча адмаўляўся, аднак потым прапанаваў перанесці разгляд пытання на заўтра. Але парламенцкая большасць не адступала. Чэпік сцвярджаў, што пры такім раскладзе дэпутаты «подвергнутся ночной обработке». І тут Шушкевіч дапусціў памылку. У спрэчцы з Чэпікам у старшыні, відаць, здалі нервы, і



Генеральны пракурор Мікалай Ігнатовіч (злева) з народным дэпутатам Сяргеем Антончыкам. 1991 год. На заднім плане — народны дэпутат Генадзь Карпенка (у чорным гарнітуры). Крыніца: http://vytoki.net



Віктар Чыкін з цыгарэтай у руцэ на мітынгу БНФ супраць рэферэндуму аб захаванні СССР як абноўленай федэрацыі. 17 сакавіка 1991 года. Нягледзячы на камуністычную артадаксальнасць, Віктар Валянцінавіч шчыра лічыў, што Мінск, у адрозненне ад паўночнакарэйскага Пхеньяна, — сапраўдная вёска, а шматлікая рэклама на вуліцах беларускай сталіцы — здача суверэнітэту краіны. Крыніца: http://vytoki.net



Народны дэпутат Сяргей Навумчык на сесіі Вярхоўнага Савета. 1991 год. Крыніца: http://vytoki.net

ён заявіў, што сто разоў парушаў рэгламент (маецца на ўвазе Часовы Рэгламент Вярхоўнага Савета ад 31 мая 1990 года. — Аўт.) і не жадае парушаць яго сто першы раз.

Узнікла патавая сітуацыя, якую дапамог вырашыць дэпутат-юрыст Уладзімір Станкевіч. Ён выказаў думку, што праект пастановы Качана ў такім выглядзе прымаць нельга, бо тады ПКБ атрымае фармальныя правы на маёмасць былой КПБ. Трэба, казаў Станкевіч, унесці адпаведныя праўкі кшталту таго, што ні адна палітычная партыя і ні адно грамадскае аб'яднанне не маюць права быць правапераемнікамі КПБ. Шушкевіч горача ўхапіўся за гэту ідэю. Вельмі спадабалася яна і дэпутацкай большасці, якая вырашыла аднавіць КПБ, але абрубіць ёй кіпцюры: пазбавіць камуністаў любых маёмасных правоў.

Вымушаны быў падпарадкавацца і Качан, заявіўшы, што з такой папраўкай здымуцца ўсе пытанні.

Калі Шушкевіч паставіў пытанне пра новы разгляд праекта пастановы Качана з такім удакладненнем, то за гэта прагаласавалі 193 дэпутаты. Сам Шушкевіч, імкнучыся захаваць твар пасля ўпамінання аб парушэнні ім сто разоў рэгламенту, прызнаўся, што ў такім выглядзе падтрымае прапанову.

Апазіцыя БНФ выказала пратэст: прымаць пастанову нельга ў любым выглядзе. Па словах Пазьняка, папраўка аб уласнасці — шырма і траянскі конь.

Узніклі рэдакцыйныя спрэчкі: другім пунктам у праекце пастановы Шушкевіч прапанаваў запісаць норму пра тое, што пацвярджаюцца папярэднія рашэнні Вярхоўнага Савета па КПБ-КПСС. На недарэчнасць такой фармулёўкі звярнуў увагу дэпутат Віктар Ганчар. Станкевіч настойваў на сваёй фармулёўцы.

Шэраг дэпутатаў заявілі, што трэба ўключыць у другі пункт канкрэтны нарматыўны прававы акт: пастанову Вярхоўнага Савета ад 10 снежня 1991 года, паводле якой уся нерухомая і рухомая маёмасць КПБ-КПСС абвяшчалася дзяржаўнай. Гэта цалкам задаволіла народных абраннікаў. Калі Шушкевіч паставіў на галасаванне пытанне аб пацверджанні гэтай пастановы, яе падтрымалі 211 дэпутатаў. Хаця Віктар Ганчар назваў такі крок Шушкевіча «абсурдам»: маўляў, для чаго пацвярджаць тое, што не адменена.

За канчатковы праект пастановы прагаласавалі 200 парламентарыяў з 224. Супраць выказаліся дзесяць чалавек: Станіслаў Бабачонак, Іван Гермянчук, Іван Герасюк, Юрый Беленькі, Аляксандр Сасноў, Яўген Цумараў, Уладзімір Станкевіч (за тое, што не прынялі ягоную фармулёўку), Уладзімір Хвошч, Міхаіл Балоцін і Анатоль Барысенка. У галасаванні не прынялі ўдзел Пазьняк і Сямдзянава. Сяргей Навумчык і Яўген Бачароў адсутнічалі на пасяджэнні сесіі.

«За» прагаласаваў і старшыня Кантрольнай палаты Васіль Саковіч, а таксама будучы сумнавядомы старшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч.

КПБ рэанімавалі і з дапамогай кіраўнікоў мясцовай вертыкалі, і старшынь калгасаў.

Пазіцыі некаторых вядомых дэпутатаў 3 лютага 1993 года ў адносінах да адмены пастановы некалькі змяніліся. Мечыслаў Грыб прагаласаваў за праект Качана з папраўкай аб маёмасці КПБ-КПСС, а і Іосіф Сярэдзіч і Ніл Гілевіч устрымаліся пры галасаванні.

Неўзабаве парламенцкая апазіцыя распаўсюдзіла заяву, дзе гаварылася, што адмена пастановы — шлях да дыктатуры. Зянон Пазьняк апублікаваў у нумары «Звязды» (11 лютага 1993 года) артыкул «Пакаранне», у якім асабіста прайшоўся па Леніну і не шкадаваў эпітэтаў для апошняга: «ідыёт», «крывавы кумір» і гэтак далей. Лідар БНФ сцвярджаў, што Ленін памёр ад сіфілісу, на які захварэў ад Інэсы Арманд, альбо пры наведванні публічнага дома ў Парыжы ў 1902 годзе. Артыкул суправаджаўся фатаграфіямі хворага Леніна і выклікаў у асноўным негатыўныя эмоцыі ў чытачоў «Звязды».

Непакой тых дэпутатаў, якія лічылі, што камуністы пасля адмены пастановы ад 25 жніўня 1991 года пачалі б разыгрываць «маёмасную» карту, не быў такім ужо беспадстаўным. Пра гэта сведчыць кароткі, аднак агрэсіўны артыкул, апублікаваны ў газеце «Мы и время» (№10, 1993 год) за подпісам ***В. Никольский*** пад назвай «Переезжать придётся». Любы, хто разбіраўся ў перыпетыях беларускай палітыкі пачатку 1990-х гадоў, ведаў, што за такім прозвішчам хаваецца Віктар Чыкін. Спадар Чыкін назваў дэпутатаў Вярхоўнага Савета «строителями капитализма, которые посягнули на самое святое в капиталистическом обществе — право собственности». Аднак Чыкін не губляў надзеі: «История рано или поздно всё расставит. Вопрос о собственности будет решён по справедливости».

Пішучы тую лухту, ці мог уявіць галоўны камуніст краіны, што праз паўгады да ўлады прыйдуць новыя людзі і здабудуць сабе такую ўласнасць і прывілеі, якія не сніліся КПБ у самым страшэнным сне?

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Ніякага Оскара за Чэрчыля!



У асяроддзі заходняй прагрэсіўнай грамадскасці пачалася кампанія супраць уручэння артысту Гары Олдману прэміі Оскар за ролю Уінстана Чэрчыля ў фільме «Цёмныя часы». Фільм распавядае пра драматычны момант ў гісторыі Брытаніі, калі ўвесну 1940 года Гітлер атакаваў Францыю, дзе знаходзілася большая частка брытанскага войска. Фіяска на фронце выклікала ў Лондане палітычны крызіс і прыход да ўлады кабінета Чэрчыля. На экране новы прэм'ер намагаецца пераканаць палітычную эліту ў неабходнасці працягваць барацьбу, а не шукаць міру з Гітлерам. Акцёр фантастычна справіўся з роляй. Інакш бы ў прэсе не загаварылі пра тое, што Оскар у гэтым годзе Олдману практычна забяспечаны. Між тым многія лічаць, што такі Оскар будзе амністыяй для палітычнай спадчыны самога Чэрчыля. Як вядома, у яго біяграфіі хапае і негатыўных эпізодаў. Найбольш абураюцца наконт магчымага Оскара за Чэрчыля ў Індыі. Не так даўно стала вядома, што прэм'ер заклікаў брытанскі ўрад да выкарыстання хімічнай зброі для падаўлення руху за незалежнасць Індыі.

**По матэрыялах брытанскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Што рабіць, каб чыноўнік не спаў?

У Казахстане незвычайны скандал, які паўстаў па слядах пасяджэння ў кіраўніка Акцюбінскай вобласці. Нехта выклаў у сеціва фота з мерапрыемства, якое было прысвечана вынікам мінулага года. На здымках большасць чыноўнікаў проста спіць падчас нарады. Гэта не першы падобны выпадак, што і выклікала незадаволенасць грамадзян. У агенцтве па справах дзяржслужбы пагаджаюцца, што чыноўнікі, якія спяць на працы ў публічным месцы, дыскрэдытуюць уладу, аднак пры гэтым намагаюцца рэабілітаваць вертыкальшчыкаў. У прыватнасці афіцыёз піша: «Тое, што чалавек заснуў, даказаць складана. Неабходна некалькі сведак, якія пацвердзяць, што дзяржслужачы засынаў». Далучыўся да дыскусіі наконт праблемы чыноўнікаў, якія засынаюць на сумных сходах, і Саюз мусульман Казахстана, вядомы сваімі іранічнымі заявамі. Саюз прапанаваў акімам запрашаць на свае выступы групу падтрымкі — музыкаў і стрыпцізёрак, якія не дазволяць прысутным стаць ахвярамі Марфея.

**По матэрыялах казахскай прэсы**

### НАУРУ. «Безвіз» для сепаратыстаў

На далёкім ціхаакіянскім востраве-дзяржаве Науру адбылася дзіўная акцыя. 5 лютага было падпісана Пагадненне паміж урадам непрызнанай Рэспублікі Паўднёвая Асеція і ўрадам Рэспублікі Науру, якая раней прызнала Цхінвал. У пагадненні гаворыцца пра адмову ад візавых фармальнасцей пры ўзаемных паездках грамадзян двух дзяржаў. Такім чынам, паўднёвыя асеціны і наурцы могуць уязджаць, выязджаць, ехаць транзітам і знаходзіцца на тэрыторыі адпаведных дзяржаў без віз 90 дзён на працягу кожнага паўгоддзя, пачынаючы з даты першага ўезду. Пытанне — навошта і галоўнае, за якія грошы жыхары Паўднёвай Асеціі змогуць паехаць на Науру, а наурцы, адпаведна, наведаць Каўказ, застаўся за кадрам цырымоніі (дарэчы, у ёй прыняў удзел дырэктар паўднёваасецінскага МЗС). Цікава, што Абхазія — яшчэ адна непрызнаная краіна на Каўказе, якую прызнае Науру, – «безвіз» наурцам даць не пажадала.

**По матэрыялах прэсы Паўднёвай Асеціі**

### ФРАНЦЫЯ. Шакаладныя беспарадкі

Па ўсёй Францыі пракаціліся беспарадкі ў папулярных супермаркетах «Intermarche». Адміністрацыя «Intermarche» вырашыла на 70 працэнтаў знізіць кошт на вядомую шакаладную пасту «Nutella» (з 4, 50 еўра за 900-грамовую банку да 1,40). Рашэнне, магчыма, было прынятае на фоне дэбатаў пра тое, што «Nutella» можа быць забароненая праз прысутнасць там інгрэдыентаў, небяспечных для здароўя. Аднак гэта французаў не спыніла. Яны атакавалі крамы, што часам нагадвала штурм Бастыліі. Ахвярамі аматараў халявы сталі прадаўцы, якія намагаліся неяк кантраляваць натоўп. У адказ публіка пачынала проста збіваць персанал. Хапала выпадкаў, калі ў барацьбе за пасту людзі моцна збівалі адно аднаго. Жоўтая прэса нават сцвярджае, што, быццам, камусьці ў тых бойках адарвалі руку. Каб спыніць хаос, давялося ўмяшацца ўраду. Адпаведным рашэннем быў уведзены мінімум, які можа набыць кожны пакупнік. Адначасова пачаліся дэбаты наконт закона, які будзе рэгуляваць правядзенне распродажаў. Гісторыяй скарысталася апазіцыя. Беспарадкі, на думку яе лідараў, сведчаць пра тое, што праблема беднасці ў Францыі вельмі актуальная.

**Паводле французскай прэсы**




Фота www.sport.znaj.ua

# Адзіная зборная? Дзякуй, не трэба

Алег НОВІКАЎ

**Напярэдадні Алімпіяды ў Паўднёвай Карэі набірае моц рух супраць удзелу мясцовых спартсменаў у адзінай з паўночнымі карэйцамі камандзе.**

«Сімвалічныя гульні міру і карэйскага адзінства», — такі штамп з'явіўся ў прэсе пасля таго, як КНДР і Рэспубліка Карэя ў студзені дамовіліся выставіць у Пхёнчхане агульную каманду. Пазней стала вядома, што КНДР пашле на Гульні 22 спартсмена, якія выступяць у пяці дысцыплінах (фігурнае катанне, канькабежны спорт, лыжныя гонкі, горныя лыжы і хакей).

З улікам таго, што Карэйскі паўвостраў — зона надзвычайна высокай палітычнай напружанасці, а КНДР увогуле не выключала байкоту Гульняў, навіна стала прыемнай сенсацыяй. Больш за тое: магчыма, гэта — толькі пачатак дыялогу. Паведамляюць пра запланаваную сустрэчу прэзідэнта краіны Мун Чжэ Іна з фармальным лідарам КНДР Кім Ён Намам. А сам Мун Чжэ Ін нават дапускае, што Алімпіяда створыць падмурак для рэдакцыі нейкай дарожнай кнігі аб'яднання.

На першы погляд, падобныя працэсы, якія спынілі спіраль эскалацыі, можна было б толькі вітаць. Між тым шмат хто незадаволены ідэяй агульнай зборнай.

Вельмі заклапочаная кантактамі паміж Сеулам і Пхеньянам Японія, якая традыцыйна не жадае аднаўлення адзінай карэйскай дзяржавы. Карэйска-японскія праблемы ўжо адлюстраваў скандал вакол дызайну сцягу адзінай карэйскай каманды — мапа Карэі на белым полі. На сцягу выяўлены таксама выспы, прыналежнасць якіх аспрэчваецца японскім бокам. Зараз тыя выспы кантралююцца жаўнерамі Рэспублікі Карэя, якая трымае там невялікі гарнізон. Натуральна, у Токіа не прайшлі міма правакацыі са сцягам, даслаўшы Паўднёвай Карэі дыпламатычны пратэст.

Аднак і ў самой Паўднёвай Карэі хапае праціўнікаў ідэі аб'ядданая карэйскай каманды. Паводле сацыялагічных апытанняў, толькі 40 працэнтаў жыхароў Паўднёвай Карэі вітаюць выхад атлетаў абедзвюх краін пад адным сцягам.

Найперш супраць адзінай каманды выступае правая апазіцыя. На яе думку, цяперашні леваліберальны кабінет краіны эксплуатуе тэму карэйскага адзінства ў мэтах павелічэння рэйтынгу. Пры гэтым Мун Чжэ Ін, як лічаць яго праціўнікі, здрадзіў дэмакратыі, адмаўляючыся ўздымаць пытанне наяўнасці на Поўначы антынароднай дыктатуры.

Натуральна, прадстаўнікі гэтага лагера бачаць у алімпійцах КНДР агентаў спецслужбаў, якія

**У Паўднёвай Карэі хапае праціўнікаў аб'ядднаная каманды. Паводле апытанняў, толькі 40 працэнтаў жыхароў краіны вітаюць выхад атлетаў абедзвюх краін пад адным сцягам**

можа цікавіць інфраструктура Пхёнчхана, што знаходзіцца ўсяго ў 80 кіламетрах ад мяжы.

Істэрыка даходзіць да таго, што сябры некаторых патрыятычных арганізацый на час Гульняў выпраўляюць сем'і як мага далей на поўдзень, а самі збіраюцца ахоўваць бераг краіны ад шпіёнаў з паўночнакарэйскіх сумбарынаў. Паводле нямецкай газеты «Tageszeitung», у Карэі сябрамі арганізацый такога кшталту з'яўляюцца каля 20 тысяч чалавек.

Пратэстуе супраць адзінай каманды і непалітызаваная грамадскасць. Шматлікіх аматараў спорту непакоіць новы фармат адзінай каманды, які, маўляў, не дазволіць карэйцам дамагчыся высокіх паказчыкаў. Трэнерам камандных відаў спорту прыходзіцца імкліва пераглядаць усе напрацоўкі, бо да якіх далучыліся новыя «паўночнакарэйскія сябры». Напрыклад, у шоку ад "аб'яднання" трэнер паўднёвакарэйскай жаночай хакейнай каманды амерыканка Сара Мюрэй. Не кажучы пра тое, што спартсмены з КНДР не разумеюць англійскую.

Праўда, і камунікацыя на роднай мове выклікае цяжкасці паміж самімі карэйцамі. На першых трэніроўках тыя ж хакеісткі сутыкнуліся з праблемай моўнага бар'ера. Справа ў тым, што пасля распаду на Поўнач і Поўдзень абедзве краіны маюць аднолькавую сістэму пісьма і падобныя мовы. Аднак адсутнасць дыпламатычных зносін і розніца ідэалогій прывялі да з'яўлення шэрага адрозненняў, якія не разумеюць па абодва бакі 38-й паралелі. Так, напрыклад, у Паўднёвай Карэі шмат тэрмінаў, звязаных са спортам, былі ўзятыя з англійскай мовы і адаптаваныя пад карэйскую. А ў КНДР для азначэння гэтых паняццяў ствараліся спецыяльныя ўласнакарэйскія словы.

Палітолагі пішуць, што вельмі кволая рэакцыя ў Паўднёвай Карэі на ідэю адзінай зборнай ілюструе слабы інтарэс да ідэі аб'яднання ўвогуле, перш за ўсё сярод прадстаўнікоў новай генерацыі. Для большасці маладых карэйцаў на Поўдні тэма адзінай Карэі — архаізм, фішка бацькоў. У прынцыпе грамадства не супраць адзінства Карэі, аднак кошт магчымага аб'яднання шмат каго пужае.

У гэтым плане гісторыя з адзінай зборнай узняла вельмі далікатнае для Сеула пытанне: што рабіць, калі рэжым Кімаў абрынецца з-за нейкіх унутраных супярэчнасцяў?

# Нашчадкі Аляксандра Македонскага

Алег НОВІКАЎ

**Балканы зноў нагадваюць парахавую бочку Еўропы. Адным з фактараў нестабільнасці з'яўляецца пытанне — як называць былую югаслаўскую рэспубліку Македонія?**

Журналісты жартуюць, што ў крызіснай Грэцыі нарэшце з'явіліся прыкметы эканамічнага адраджэння. Хуткімі тэмпамі ў краіне павялічваецца выраб дзяржаўных бела-сініх сцяжкоў. Яны, як гарачыя піражкі, разлятаюцца па два еўра падчас мітынгаў супраць таго, каб былая югаслаўская рэспубліка Македонія называлася «Новая Македонія». Такую назву прапануе цяперашні ўрад у Скоп'е. Грэкі настойваюць на тым, што згаданая краіна не звязаная з гістарычнай Македоніяй і ў любым варыянце называцца так не мае права.

Крызіс вакол назвы «Македонія» цягнецца ўжо амаль 25 гадоў. Адсутнасць кампрамісу шмат у чым звязана з асаблівасцямі будаўніцтва нацыянальнай македонскай ідэнтычнасці. Калі ў верасні 1991-га пачалася дэфрагментацыя сацыялістычнай Югаславіі, на Македонію нечакана зваліласяа незалежнасць. Перад яе кіраўніцтвам паўстала праблема пошуку ідэалагічнага кантэнту?

Прычым, праблема павінна была вырашацца хутка з улікам таго, што ў суседніх краінах — Балгарыі, Сербіі і Грэцыі — шматлікія палітычныя сілы адмаўлялі існаванне македонскай нацыі. Не кажучы ўжо пра тое, што ў новай краіне пражывала албанская меншасць, якая патрабавала прызнаць іх таксама тытульнай нацыяй. Нават сярод саміх македонцаў была папулярная думка, што македонцаў як асаблівай нацыі не існуе. Македонскі праект, мауляў, прыдумаў Ціта, які хацеў выкарыстаць гэтую тэму для аднаго геапалітычнага праекта — будаўніцтва пад сваім кантролем Балканскай федэрацыі.

Нацыянальную ідэнтычнасць было вырашана шукаць у падручніках па антычнай гісторыі. У аснову новай дзяржаўнай ідэалогіі быў пакладзены дагмат пра тое, што сучасныя македонцы не маюць нічога агульнага са славянамі. Сцвярджалася, што яны з'яўляюцца спадкаемцамі тых самых антычных македонцаў, якія пад кіраўніцтвам Аляксандра Вялікага пабудавалі імперыю ад Грэцыі да Афганістана. Пры гэтым антычных македонцаў лічылі асобнай ад грэкаў нацыяй.

Канцэпцыя «антычных македонцаў» або «антыквізацыя», не ўзнікла на голым месцы. Першымі гэта запусцілі ў XIX стагоддзі мясцовыя сацыялісты, якія хваляваліся, што край трапіць пад уплыў культурна і рэлігійна блізкай Балгарыі. Эстафету перахапілі прапагандысты акупацыйнай адміністрацыі ў часы Другой сусветнай. Пасля вайны тэма была папулярная сярод часткі македонскай эміграцыі.

Фарсіравана праводзіць у жыццё канцэпцыю «антычных македонцаў» пачалі ў 2006-м, пасля прыходу да ўлады партыі VMRO-DPMN. На справе гэта азначала будаўніцтва помнікаў Аляксандру Македонскаму і яго бацьку Філіпу Македонскаму ва ўсіх больш-менш значных гарадах краіны. Апафеозам стаў 22-метровы манумент, адкрыты ў сталіцы ў 2011-м. Пасля помнікаў прыйшла чарга аб'ектаў інфраструктуры. Аэрапорт, вуліцы, стадыёны былі перайменаваныя ў гонар герояў старажытных часоў. Перайменаванні стала выклікалі істэрыку ў Афінах, дзе не паспявалі пісаць ноты пратэсту.

Новай фазай «антыквізацыі» стаў пошук нашчадкаў тых македонцаў, якія выправіліся з Аляксандрам Македонскім будаваць яго імперыю. І такія, у выніку, знайшліся. Імі апынуліся бурышы (другая назва — хунза) — насельніцтва высакагорных раёнаў пакістанскага Кашміра. Хоць бурышы вераць у Алаха, а іх ДНК бліжэй да народаў Ірана, горцаў усё ж запісалі ў македонцы. Князя бурышаў нават запрасілі ў Скоп'е, дзе яго на афіцыйным узроўні сустракалі ўсе першыя асобы дзяржавы.

Але гэта яшчэ кветачкі. Тэзіс, што македонцы — не славяне і не нашчадкі грэкаў, выклікае заканамернае пытанне: да якой групы народаў іх адносіць? Адказ прапанавала ў 2009 годзе македонскае тэлебачанне, дзе сцвярджалі, што македонцы — нашчадкі самага старажытнага ў свеце белага народа, які гістарычна супрацьстаіць мангалоідам і негроідам. Пасля гэтага не дзіўна, што прэм'ер Нікола Груеўскі назваў Македонію фундаментам еўрапейскай цывілізацыі.

Падобны навуковы валюнтарызм выклікаў крытыку нават у асяроддзі македонскіх гісторыкаў. Яны неаднаразова звярталі ўвагу на тое, што ніякіх археалагічных доказаў існавання асаблівай адрознай ад элінаў нацыі «антычных македонцаў» няма. Артэфакты паказваюць, што старажытная Македонія была часткай элінскага свету, — праўда, знаходзілася на яго перыферыі.

**У аснову дзяржаўнай ідэалогіі быў пакладзены дагмат пра тое, што сучасныя македонцы — не славяне. Нібыта, яны спадкаемцы антычных македонцаў, якія пад кіраўніцтвам Аляксандра Вялікага пабудавалі імперыю ад Грэцыі да Афганістана**

Зрэшты, куды больш небяспечнай для прыхільнікаў канцэпцыі «антычных македонцаў» аказалася карупцыя. Прэса высвятліла жудасныя факты: стварэнне кожнага помніка Аляксандру Македонскаму абыходзілася бюджэту ад 80 да 200 мільёнаў еўра. Нарэшце, катэгарычна адмовіліся лічыць сябе «этнічнымі македонцамі» мясцовыя албанцы. Апошнія разглядаюць культ Аляксандра як намер маргіналізаваць іх этнас.

Эрозія дзяржаўнай ідэалогіі ў тым ліку спрыяла змене ўрада ў мінулым годзе. Новы кабінет гатовы на радыкальныя саступкі грэкам: напрыклад перайменаваць той жа аэрапорт Аляксандра Македонскага. Праўда, грэкі патрабуюць большага: Скоп'е ўвогуле павінна адмовіцца ад назвы «Македонія».

Як будзе выглядаць кампраміс, пакуль незразумела. Таксама незразумела, на якіх забабонах у будучым збіраюцца будаваць македонскую ідэнтычнасць?



## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Ларэнца Мендоза

Вядомы ў Венесуэле прадпрымальнік, падаецца, будзе асноўным альтэрнатыўным кандыдатам на прэзідэнцкіх выбарах, якія прызначаны на сакавік.

У апазіцыі лічаць, што бізнесмен зможа перамагчы Нікаласа Мадуру, які ўжо абвясціў пра намер перабрацца на другі тэрмін. Лічыцца, што ў Мендозы як мінімум два козыры. Па-першае, ён належыць да нешматлікіх венесуэльскіх прадпрымальнікаў, якія ніколі не выводзілі капітал за мяжу. Па-другое, у краіне няма чалавека, які не ведае пра кандыдата-дэмакрата. «Harina P.A.N» — фірма Мендозы, — вядучая кампанія на рынку дзіцячай ежы. Акрамя таго, яна выробляе «Polar»: самае папулярнае не толькі ў Венесуэле, але і на ўсіх Карыбах піва.

Дапамагчы альтэрнатыўнаму кандыдату можа і тое, што ён не мае палітычнага бэкграўнду. Наадварот, Мендоза доўгі час цураўся любых кантактаў з палітыкамі. Толькі эканамічныя праблемы простых людзей, быццам бы, прымусілі яго выступіць супраць чавістаў. А апошнія ўжо абвінавацілі Мендозу ў махінацыях з коштамі на кукурузу, што, нібыта, і выклікае агульны рост коштаў на прадукты.

Застаецца дадаць, што Мендоза ідзе на выбары як незалежны кандыдат. Апазіцыйная кааліцыя дасюль не вызначылася наконт удзелу ў выбарах.



### Ільхам Аліеў

Кіраўнік Азербайджана нечакана перанёс прэзідэнцкія выбары з кастрычніка на красавік гэтага года. Афіцыйна гэтае рашэнне тлумачыцца падрыхтоўкай да святкавання 100-годдзя стварэння Азербайджанскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Ужо цяпер вядома, што Аліеў будзе балатавацца на красавіцкіх выбарах. У панядзелак рашэнне аб яго вылучэнні прыняў з'езд Канфедэрацыі прафсаюзаў краіны. Прадстаўнікі апазіцыі ў сваю чаргу заявілі, што дзеючы кіраўнік спецыяльна ідзе на такі крок, каб не даць апазіцыянерам вылучыць альтэрнатыўнага кандыдата.

Нацыянальны савет дэмакратычных сіл (НСДС) Азербайджана прыняў рашэнне пра байкот прызначаных на 11 красавіка пазачарговых выбараў. Іншыя эксперты ўпэўненыя, што Аліеў карыстаецца часовым ростам эканомікі краіны для атрымання больш шырокага народнага мандата. Не выключана, што такі мандат неабходны для заключэння мірнай дамовы па Карабаху. У верасні мінулага года армянскі бок заявіў, што гатовы перадаць Азербайджану частку захопленых тэрыторый для ўрэгулявання канфлікту.

### Карлес Пучдэмон



Каталонскі незалежнік, які сёння хаваецца ад пераследу іспанскай Феміды ў Брусэлі, стаў каталізатарам расколу ў шэрагах руху прыхільнікаў незалежнай Каталоніі.

Пралогам расколу стала жорсткая рэакцыя Пудчэмона на рашэнне спікера каталонскага парламента Рожэра Торэнта. Той адмовіўся выносіць на разгляд парламента праект аб прызначэнні Пучдэмона кіраўніком урада аўтаноміі, пакуль канстытуцыйны трыбунал у Мадрыдзе не абвесціць рашэнне — ці можна кіраваць Каталоніяй дыстанцыйна. Аднак Пучдэмон пабачыў ва ўчынках Торэнта здраду. А паколькі Торэнт не належыць да JxCat — партыі Пучдэмона, — з'явілася глеба для міжпартыйных разборак.

Цяпер у кіраўніцтве JxCat падазраюць, што Торэнт выканаў загад сваёй партыі — Каталонская рэспубліканская левыя (ERC). ERC — гістарычная партыя каталонскіх нацыяналістаў, — сапраўды раўніва ўспрымае электаральныя поспехі JxCat, якая на сёння з'яўляецца самай папулярнай партыяй у рэгіёне.

Пакуль у Барселоне лаюцца, у Мадрыдзе адкаркоўваюць шампанскае. Іспанскі прэм'ер Марыяна Рахой зноў пачаў фантанаваць ідэямі, што ў асяроддзі незалежнікаў з'явіцца канструктыўная група, гатовая дамаўляцца з цэнтрам па ўмовах аўтаноміі. Аднак большасць каментатараў лічаць, што бунт у Каталоніі працягнецца, паколькі на яго нізавы базіс канфлікты ў кіраўніцтве партый не ўплываюць.

# Як аднаасобнікі ад павіннасцяў ухіляліся, і што з гэтага атрымалася

« Працяг. Пачатак у №3.

Уладзімір ВАЛОДЗІН




### Рабочы, але ж і селянін!

Сярод дакументаў суда 3-га ўчастка горада Менска ёсць сведчанні пра сялян, якія спрабавалі перайсці ў разрад рабочых і такім чынам пазбегнуць выканання павіннасцяў. Так, пайшоў працаваць качагарам на чыгунку аднаасобнік вёскі Бардзілаўка Кайкаўскага сельсавета Андрэй Васілевіч Шкор, 1894 года нараджэння, беларус, малапісьменны, беспартыйны, жанаты, які меў чатырох утрыманцаў. Але сельсавет і суд гэта не цікавіла: нават калі ты рабочы, аднаасобнікам ты застаешся і пасяўны план мусіш выконваць!

31 кастрычніка 1935 года суддзя Манько і члены-засядацелі Хмялеўскі і Кунцэвіч пры сакратары Стрыгун разгледзелі справу Андрэя Шкора. Суд адзначыў, што падсудны пазбаўляўся выбарчых правоў (пазней адноўлены ў іх), а ў 1933 годзе ён абкладаўся індывідуальна за «спекуляцыю сялёдак». Андрэй Шкор «у 1935 годзе катэгарычна адмовіўся выканаць вясенні і азімы планы сева, даведзеныя Кайкаўскім сельсаветам. Таксама не выканаў мясанарыхтоўку за 1935 год». Небарака быў асуджаны па частцы 2 артыкула 94 КК БССР да турэмнага зняволення ў агульных месцах зняволення тэрмінам 1 год і 6 месяцаў.

### «Самы гуманны суд у свеце»

На прыкладзе наступнай справы можна пабачыць амаль увесь спектр падаткаў і натуральных павіннасцяў, якія неслі сяляне СССР у 1930-я гады. 1 сакавіка 1936 года суд 3-га ўчастка горада Менска ў складзе суддзі Манько, членаў-засядацеляў Запольскага і Шарко пры сакратары Галавачы разгледзеў справу 32-гадовага малапісьменнага несудзімага Міхаіла Максімавіча Корзуна, аднаасобніка вёскі Волма Кліноцкага сельсавета Чэрвеньскага раёна. Падсудны быў жанаты, меў двух утрыманцаў, да калектывізацыі меў 5 гектараў зямлі, 1 каня, 1 карову, выбарчых правоў не пазбаўляўся.

Ён быў «вінаваты» ў тым, што «недавыканаў план веснавога сева 1935 года, а таксама не выканаў дзяржаўных абавязкаў зерневых культур 430 кіло, бульбы 1176 кіло, ільновалакна 33 кіло, мяса 50 кіло, сельскагаспадарчага падатку і страхоўкі ў суме 563 рублі. Як устаноўлена пры допыце сведкаў, падсудны Корзун усе дзяржаўныя абавязкі не выканаў таму, што маёмасць разбазарыў і ўпарта супраціўляўся выконваць дзяржаўныя абавязкі».

«У моц артыкула 94 КК БССР» Міхаіла Корзуна пакаралі двума гадамі пазбаўлення волі ў агульных месцах зняволення. У гэты тэрмін было залічана папярэднне ўтрыманне пад вартай з 26 лістапада 1935 года да 1 сакавіка 1936 года. Мерай стрымання да ўступлення прысуду ў законную сілу было прызначана ўтрыманне пад вартай у Менскай турме.

**У 1937 годзе БССР скаланула так званая «лепельская справа». Беларускія кіраўнікі абвінавачваліся ва злоўжываннях і здзеках над калгасным сялянствам**

Але ў 1937 годзе БССР скаланула так званая «лепельская справа». Справа гэтая была часткай вялікага тэрору і была выкарыстана крамлёўскім кіраўніцтвам як падстава для рэпрэсій супраць кіраўніцтва менскага (было рэпрэсавана таксама шмат начальнікаў раённага ўзроўню з розных частак рэспублікі). Кіраўнікі абвінавачваліся ва злоўжываннях і здзеках над калгасным сялянствам. Адначасова былі дадзены некаторыя эканамічныя палёгкі калгасам, калгаснікам і аднаасобнікам (пры гэтым паралельна праводзілася антысялянская «кулацкая» аперацыя НКУС).

2 жніўня 1937 года ЦК УКП(б) і СНК СССР прынялі пастанову №1261 «Аб аказанні дапамогі калгаснаму сялянству БССР і аб ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў справе калгаснага ўпарадкавання». Сярод іншага, пастанова прадугледжвала дазвол для калгаснікаў і аднаасобнікаў пасвіць жывёлу ў лясах, спісанне з іх нядоімак па бульбапастаўках за 1936 год, па мясапастаўках за 1935 і 1936 гады, па малакапастаўках за 1936 год.

Аднаасобнікам даваліся льготы пры ўступленні ў калгас, у тым ліку з іх спісваліся ўсе запазычанасці мінулых гадоў як па натуральных, так і па грашовых плацяжах. Відавочна, пастанова мела за мэту прыцягнуць у калгасы аднаасобнікаў, якіх у БССР усё яшчэ налічвалася каля 100 тысяч гаспадарак.

Як піша гісторык Ірына Раманава, «на падставе гэтай пастановы (ад 2 жніўня 1937 г.) перагляду падлягалі ўсе справы асуджаных у 1934–1937 гадах за невыкананне дзяржаўных абавязацельстваў па натуральных пастаўках і грашовых плацяжах, а таксама справы аб лесапарушэннях і самаўпраўным захопе зямлі калгаснікамі і аднаасобнікамі. Праводзіўся перагляд спраў і вызваленне з-пад варты няправільна асуджаных «асобаў сельскага і калгаснага актыву». З лістапада 1937 года да траўня 1938, паводле дадзеных Вярхоўнага суда, былі перагледжаны 51 882 справы ў адносінах да 72 817 чалавек. У выніку больш чым з 38 тысяч чалавек рашэннем ЦВК БССР была знята судзімасць, у адносінах да 5,6 тысячы прысуды былі адменены».





**З лістапада 1937 года да траўня 1938, паводле дадзеных Вярхоўнага суда, былі перагледжаны 51 882 справы ў адносінах да 72 817 чалавек. У выніку больш чым з 38 тысяч чалавек рашэннем ЦВК БССР была знята судзімасць, у адносінах да 5,6 тысячы прысуды былі адменены**

Была перагледжана і справа Міхаіла Корзуна пад №35773/69. Гэта зрабіла 25 лютага 1938 года касацыйная калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР у складзе старшыні Пасюкова і членаў Ісачэнка і Іванчанка. «Улічваючы, што мясапастаўкі з працоўных пастановай ураду зняты, і што ільнопастаўкі Корзунам не выкананы не ў сувязі з яго злоснасцю, што ж датычыцца неўнясення падатку, то і ў даным выпадку не ўстаноўлена злоснасць, і пры такіх акалічнасцях прыцягваць Корзуна да крымінальнай адказнасці не выклікалася неабходнасцю», калегія Вярхоўнага суда прысуд суда першай інстанцыі адмяніла, справу Корзуна «далейшым вытворам» спыніла і крывадушна пастанавіла «вызваліць яго з-пад варты».

Крывадушна, бо азначэнне калегіі было вынесена 25 лютага 1938 года, а Міхаіл Корзун мусіў выйсці са зняволення яшчэ ў лістападзе 1937 года. Верагодна, яму нават не паведамілі, што яго справу спынілі. Вось так выглядала сталінская «рэабілітацыя».

### Рэабілітацыя 1990-х гадоў

Пастанова Вярхоўнага Савета Беларусі ад 6 чэрвеня 1991 года «Аб парадку рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій 20–80-х гадоў у Рэспубліцы Беларусь» вызначае, што рэабілітацыі падлягаюць, сярод іншых, «сяляне, у тым ліку прызнаныя кулакамі, асуджаныя за няўплату павышаных падаткаў і адмову ад выканання павіннасцей і работ, якія маюць агульнадзяржаўнае значэнне, па артыкуле 93 і артыкуле 94 Крымінальнага кодэкса БССР 1928 года». Пастанова працягвае дзейнічаць.

На жаль, не атрымалася высветліць, ці былі рэабілітаваныя героі гэтага матэрыялу. У адкрытых інтэрнэт-базах дадзеных іх імёнаў няма. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь ёсць база дадзеных «Неабгрунтавана рэпрэсіраваныя грамадзяне Беларусі».

Але Нацыянальны архіў фактычна закрыў базу: звесткі па тым ці іншым рэпрэсаваным (рэпрэсаванай) цяпер выдаюцца толькі яго (яе) сваякам. Гэта не толькі незаконна (бо наўпрост парушае пастанову Вярхоўнага Савета «Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку ўзнаўлення правоў грамадзян, якія пацярпелі ад рэпрэсій у 20–80-х гадах»), але і абсурдна: у многіх рэпрэсаваных нашчадкаў і блізкіх сваякоў не засталося, і пра лёс такіх людзей цяпер паспалітаму чалавеку (напрыклад, краязнаўцу ці журналісту) дазнацца проста немагчыма.

Таму «Новы Час» просіць звязацца з рэдакцыяй тых, хто нешта ведае пра герояў матэрыялу ці з'яўляецца іх сваякам.

**Працяг тэмы будзе**

# Таямніца «інтымнага дзённіка» Максіма Багдановіча



Паліна СЦЕПАНЕНКА

**Дыскусія вакол «інтымнага дзённіка» Багдановіча пачалася не сёння. Галоўны тэзіс: нібыта, існуюць людзі, якія не даюць яго чытаць іншым, а чаму — не зразумела. І гэта пытанне задаецца кожны раз, як першы, пачынаючы з публікацыі Алеся Астраўцова пра дзённік у «Нашай Ніве» напачатку 1990-х. Але пра ўсё па чарзе...**

### Што такое «інтымны дзённік»?

Гэта прыватныя запісы, зробленыя Максімам Багдановіча летам 1915 года ў Старым Крыме, — ён фіксуе эпізоды летняга кахання.

Максім Багдановіч наведваў Крым тры разы — у 1909, 1915 і 1917 гадах. Першы раз у Крым Максіма завёз бацька. Перад гэтым у 1908 годзе ад сухотаў памірае старэйшы брат Максіма — Вадзім Багдановіч, а ў 1909 годзе сімптомы хваробы выяўляюцца ў Максіма.

Другі раз у 1915 годзе Максім Багдановіч адпачывае ў Старым Крыме. Зараз ён едзе адпачываць самастойна, без бацькі. Адна з крыніц, з якой можна даведацца пра гэты перыяд, — твор «Из летних впечатлений»: падарожныя нататкі на рускай мове. Яны складаюцца з трох нарысаў: «Феодосия», «Старый Крым», «Поездка в Коктебель». Упершыню былі надрукаваны з працягам ў часопісе «Русский экскурсант» у 1916 годзе пад рубрыкай «Родиноведение». Пад кожным нарысам подпіс — «М. Богданович».

Падзеі лета 1915 года Максім Багдановіч занатоўваў уласнаручна. Ён быў дарослым 23-гадовым студэнтам-юрыстам. У Старым Крыме Максім Багдановіч пазнаёміўся з Клавай, якая стала персанажам так званага «Інтымнага дзённіка паэта» (рукапіс, які захоўваўся ў фондах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску). Яшчэ падчас СССР дзённік расчытваўся пры дапамозе крыміналістычнай экспертызы. Менавіта крыміналісты рабілі фотакопіі інтымных запісаў і іх расчытку. Але да гэтага часу дзённік расчытаны не цалкам. Не расчыталіся, напрыклад, словы, якія знаходзіліся на згібах. Запісы рабіліся на аркушы, які пасля перагібаўся некалькі разоў, каб займаць менш месца, каб лягчэй было схаваць. Не расчыталіся і некаторыя скарачэнні (іх там шмат) і словы (запісы вяліся дробным «бісерным» почыркам).

### Хто ведаў пра дзённік, працаваў з ім і прымаў рашэнне не друкаваць?

Мікалай Агурцоў, яраслаўскі сябра паэта, згадваў: «Асабіста ад мяне ён (Максім Багдановіч) не хаваў, што знаходзіцца ў інтымнай перапісцы з адной асобай, з якой пазнаёміўся ў Крыме і пакахаў. Я не ведаў гэтай асобы. Але, як мне здавалася, яго пачуцці былі сур'ёзныя і моцна адбіваліся на здароўі. Адчувалася, што ён перажывае нейкі цяжкі ўнутраны крызіс».

Даследчык С. Калугін, які адшукаў дом у Старым Крыме, дзе жыў Максім Багдановіч у 1915 годзе, выказаў меркаванне, што Клава была армянкай з рускім прозвішчам Салтыкова (па мужу), падобная да «Венецыянкі» Урубеля, але версія не мае дакументальнага пацвярджэння. Клаве прысвечаны верш на рускай мове «Забудется многое, Клава».

Спачатку дзённік знаходзіўся ў драматурга і палітыка Язэпа Дылы, разам з іншымі дакументамі, перададзенымі бацькам паэта Адамам Багдановічам.

Язэп Дыла быў сябрам камісіі Інбелкульта па спадчыне Максіма Багдановіча і ўжо ў 1920-я гады абмяркоўваў мэтазгоднасць друкавання дзённіка з Адамам Багдановічам. Абодва прыйшлі да высновы — друкаваць не варта. Перапіска ёсць у адкрытай крыніцы — зборніку «Шлях паэта» 1976 года.

Пазней Язэп Дыла быў рэпрэсаваны і высланы ў Саратаў.

У кнізе «Шляхі» бібліёграфа Ніны Ватацы, зборы якой леглі ў аснову фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску, на старонцы 128 чытаем: «Беларускі драматург Язэп Дыла прыслаў з Саратава ў Акадэмію навук БССР амаль нечытэльны алоўкавы аўтограф Крымскага дзённіка Максіма Багдановіча 1915 года. Літаратуразнаўчага значэння гэтыя інтымныя накіды не маюць. Захоўваецца дзённік у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (Рукапісны фонд Сектара тэатра і кіно, фонд 1, Агульны раздзел, спр.13)».



**Пытанне, чаму дагэтуль не даюць друкаваць дзённік, застаецца. Хто і каму павінен даваць адказ — не зразумела. Даследчыкі творчасці Максіма Багдановіча ў розныя часы мелі доступ да дзённіка. І цяпер супрацоўнікі музея могуць падрыхтаваць дзённік да друку — навуковага патэнцыялу дастаткова**

І ўсё. А што пасля? Як дзённік трапіў з архіва ў музей Максіма Багдановіча? Як ні дзіўна — з прыватнага архіва, куды ён трапіў з дзяржаўнага. У той жа кнізе «Шляхі» чытаем: «У пачатку 1968 года пачаў збіраць біяграфічныя звесткі для напісання лібрэта оперы пра Максіма Багдановіча паэт Алесь Бачыла. На аснове тых матэрыялаў А. Бачыла напісаў цікавую кнігу «Дарогамі Максіма»».

Опера называлася «Зорка Венера», і для працы над лібрэта аўтар карыстаўся дзённікам.

У кнізе «Дарогамі Максіма» Алесь Бачыла піша:

«Пра існаванне гэтага дзённіка ведала вельмі абмежаванае кола людзей. Нават многія з даследчыкаў творчасці Максіма Багдановіча, калі я напамінаў пра дзённік, дзівіліся: «Няўжо ёсць такі дзённік?» Так і ляжаў ён амаль нікім не чапаны ў інстытуцкіх шафах. Я ўжыў слова «амаль» не выпадкова. Бо ўсё ж да дзённіка — уцалелых рукапісаў паэта няшмат — дакраналіся цікаўныя рукі тэатральнага даследчыка Алега Саннікава. Больш за месяц праседзеў ён з павелічальным шклом у руках над невялікім аркушыкам паперы, спісаным бісерным почыркам, каб прачытаць тэкст. Расшыфраваныя словы і цэлыя сказы ён старанна заносіў у асобны сшытак. Але да канца расшыфраваць тэкст так і не ўдалося. Паколькі дзённік пісаўся не для пабочных людзей, таму яго аўтар не клапаціўся пра выразнасць почырку, і шмат якія словы падаваў у скарачэннях, зразумелых толькі самому. І ўсё ж месяц карпатлівай працы не прапаў марна. Нават на тым, што расшыфравана, а расшыфравана крыху больш за трэць тэксту, мы можам скласці ўяўленне пра паэтаў характар, пра яго погляды на жанчын і пра адносіны з Клавай, якую ён сустрэў улетку 1915 года ў Старым Крыме. (...) Дзённік падрабязна расказвае пра іх інтымныя адносіны, і таму мы не маем права цытаваць тое, што пісалася для сябе, што з'яўляецца таямніцаю за сямю пячаткамі».



Бацькі Багдановіча Адам і Марыя з сынамі Вадзімам, Максімам і Львом

Часткова «Дзённік» быў пераказаны і апублікаваны ў кнізе Леаніда Зубарава пра Максіма Багдановіча.

### Што спыняла ад друку цалкам?

Дакрананне да чужой таямніцы, да тэксту, напісанага «для сябе», — прынцып прыватнасці, павага да памяці паэта.

Але пытанне, чаму дагэтуль не даюць друкаваць дзённік, застаецца. Хто і каму павінен даваць адказ — не зразумела. Даследчыкі творчасці Максіма Багдановіча ў розныя часы мелі доступ да дзённіка. І цяпер супрацоўнікі музея могуць падрыхтаваць дзённік да друку — навуковага патэнцыялу ў музея дастаткова.

Адразу скажу — я за тое, каб людзі яго маглі чытаць, але для гэтага дзённік трэба выдаць з навуковымі каментарамі, а перад гэтым паспрабаваць яшчэ раз расчытаць яго.

У 1980-я гады з дзённікам працавалі эксперты-крыміналісты. У выніку з'явілася расшыфроўка тэксту. Але нават пасля гэтага, ужо напрыканцы 1990-х супрацоўніца фондаў Літаратурнага музея Алена Лапцёнак расчытала каля 10 новых слоў з дзённіка.

Калі дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску быў Алесь Бяляцкі, то ўжо збіраліся друкаваць дзённік у архіўным зборніку, які павінен быў прысвячацца жанчынам у жыцці Максіма Багдановіча. Але зборнік не быў выдадзены: па палітычных матывах дырэктару і часткі супрацоўнікаў давялося звольніцца з музея.

**Пра аўтара:**

Паліна Сцепаненка ў 1990–1998 гадах была супрацоўніцай экспазіцыйнага аддзела Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.



Ажэшка. Капліца



Дарога на гару Касцюшка



Драўляныя скульптуры Т. Касцюшкі і яго любімай дзяўчынкі Людвікі

# «Нарадзіўся я ліцьвінам...». Шляхамі Тадэвуша Касцюшкі

Лявон ЦЕЛЕШ

**Наведванне Жабінкаўскага, Кобрынскага і Драгічынскага раёнаў з'явілася сапраўдным падарункам лёсу. Тым больш падарожжа прайшло па мясцінах, звязаных з жыццём і змаганнем супраць царскай Расіі паўстанцкіх атрадаў нацыянальнага героя ЗША, Польшчы і Беларусі Тадэвуша Касцюшкі.**



Від Жабінкаўскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея



Царква Іаана Прадцечы ў в. Мацievічы Жабінкаўскага раёна

Мы наведалі Малыя Сяхновічы — малую радзіму Тадэвуша Касцюшкі, дзе некалі была радавая сядзіба Касцюшкаў-Сяхновічаў. Шырокая алея, абсаджаная магутнымі дрэвамі, прывяла нас да будынка, дзе раней была школа, а зараз размешчаны Жабінкаўскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей. Некалі сядзібу Касцюшкаў-Сяхновічаў ахінаў вялікі парк, рэшткі якога захаваліся да нашага часу.

Перад будынкам музея ўзвышаецца пакуль што адзіны ў Беларусі помнік Касцюшку, створаны архітэктарам Альбінай Відацкай у 1930 годзе. Ля ўвахода нас гасцінна сустрэла яго супрацоўніца Жана Мікалаеўна, якая паведаміла, што музей наведваюць турысты з розных краін свету, нават з Аўстраліі, дзе вышэйшая гара кантынента носіць імя Касцюшкі. Потым яна паказала нам павалены маланкаю магутны дуб, які, паводле падання, быў пасаджаны Касцюшкам. Нехта з сялян спрабаваў распілаваць гэты дуб на дровы, але мясцовыя жыхары перашкодзілі знішчэнню рэліквіі.

У будынку музея вялікая мемарыяльная зала прысвечаная толькі Тадэвушу Касцюшку. Вядома, што нарадзіўся ён у вёсцы Мерачоўшчына (сёння — Івацэвіцкі раён) у сям'і збяднелага шляхціча, але сваёй малой радзімай лічыў Сяхновічы, дзе прайшло больш за 10 гадоў яго жыцця. Побач з будынкам музея нашу ўвагу прыцягнулі драўляныя скульптуры Касцюшкі і яго каханай Людвікі, выкананыя народным майстрам з Камянца Анатолем Турковым.

У час, калі Тадэвуш Касцюшка быў выхавальнікам у гаспадарцы заможнага шляхціца Юзафа Сасноўскага, ён закахаўся ў яго дачку Людвіку і хацеў ажаніцца з ёю. Але бацька дзяўчыны адмовіў Тадэвушу: «Галубкі не для вераб'ёў, а дочкі магнатаў не для шляхцюкоў». Атрымаўшы адмову, Тадэвуш спрабаваў збегчы з Людвікай, але быў затрыманы слугамі Сасноўскага і жорстка збіты. Гісторыкі сведчаць, што ён да скону кахаў Людвіку.

Пасля няўдалага сватання Касцюшка з'ехаў у Францыю, затым — у Паўночную Амерыку, дзе ўдзельнічаў у вайне за незалежнасць ЗША. За мужнасць і геройства Касцюшка атрымаў найвышэйшую ўзнагароду ЗША і званне брыгаднага генерала. А ў 1794 годзе на тэрыторыі сённяшняй Беларусі ён узначаліў нацыянальна-вызваленчае паўстанне супраць расійскай акупацыі. У ім удзельнічаў і вядомы беларускі кампазітар Міхал Клеафас Агінскі, які пасля паражэння паўстання мусіў з'ехаць з Радзімы, чаму і прысвяціў славуты паланэз — «Развітанне з Радзімай».

Хто быў па нацыянальнасці Касцюшка? За два гады да смерці ў лісце да імператара Расіі Аляксандра I ён пісаў: «Нарадзіўся я ліцьвінам... Смуга будучыні яшчэ пакрывае лёс маёй роднай зямлі». Як Адам Міцкевіч, так і Тадэвуш Касцюшка, і Кастусь Каліноўскі сваёй Радзімай лічылі не Польшчу, а Літву, сучасную Беларусь, і па сённяшнім паняццям яны – беларусы.

Пасля Малых Сяхновічаў мы наведалі старажытную Свята-Мікіцкую царкву ў вёсцы Здзітава, якая была пабудавана на маляўнічым беразе рэчкі Мухавец аж у 1502 годзе. У 1758 годзе ў ёй адпявалі бацьку Тадэвуша — палкоўніка Людвіка Касцюшку-Сяхновіча. У Жабінкаўскім раёне мы пабачылі яшчэ адну мясціну, звязаную з паўстаннем 1794 года. У вёсцы Чыжэўшчына, якая ў тыя далёкія часы называлася Крупчыцы, каля крупчыцкага кляштара адбылася жорсткая бітва паміж расійскім войскам на чале з Аляксандрам Суворавым і паўстанцамі Тадэвуша Касцюшкі.

У гонар гэтай падзеі на месцы бітвы быў усталяваны мемарыяльны комплекс з прыгожай капліцай. На памятным камяні, што ляжыць ля ўвахода ў мемарыял, надпіс: «Капліца ўсталявана ў памяць аб воінах, што загінулі ў Крупчыцкай бітве 17 верасня 1794 года». А ў самой капліцы на памятным знаку таксама можна прачытаць «За нашу і вашу волю. 17 верасня 1794 года. Найвялікшая бітва часоў касцюшкаўскага паўстання на землях Беларусі».

У вёсцы Мацievічы мы даследавалі царкву Іаана Прадцечы, пабудаваную ў 1718 годзе дзякуючы намаганням Касцюшкаў-Сяхновічаў.

Непадалёк ад Дзяржынска (Койданава), на ўскраіне вёскі Дзягільна ёсць старыя могілкі, якія мясцовыя жыхары называюць «панскімі». Тут пахаваны даследчык Казахстана, падарожнік, пісьменнік, удзельнік паўстання 1831 года Адольф Янушкевіч і яго маці Тэкля, стрыечная ўнучка Тадэвуша Касцюшкі, унучка яго роднай сястры Ганны. Муж Тэклі Міхаіл прымаў удзел у паўстанні, і за мужнасць Тадэвуш Касцюшка прысвоіў яму чын палкоўніка.

Мне пашчасціла наведаць Кракаў, дзе ў крыпце каралеўскага замка Вавель знайшлі вечны спакой парэшткі легендарнага чалавека — Тадэвуша Касцюшкі. Перад уваходам у замак узвышаецца яго велічная скульптура. Вядома, што памёр ён 15 кастрычніка 1817 года ў швейцарскім горадзе Салюр, дзе і быў пахаваны, потым цела было перапахавана ў замку Вавель, а яго сэрца і зараз захоўваецца ў асобнай урне ў Варшаве.

**Фота аўтара**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №151

Падпісана да друку 09.02.2018. 8.00.
Наклад 2500 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.